PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 30 (1993) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 24 ЛІПЕНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

## Пасол у „Ніве”

Рэспубліка Беларусь мае ў Польшчы новага свайго пасла. 29 чэрвеня гэтага года Георгій Таразевіч уручыў даверчую грамату прэзідэнту Леху Валэнсу. У днях 8 і 9 ліпеня гэтага года пасол Таразевіч пабываў на Беласточчыне — наведаў ён, між іншым, Беларускае грамадска-культурнае таварыства, рэдакцыю нашага тыднёвіка, святкаванне Купалля ў Белавежы, Ваяводскую управу.

Рэдакцыю „Нівы” пасол Таразевіч, у суправаджэнні другога сакратара Пасольства Уладзіміра Каральчука і консула Беларусі ў Беластоку Ігара Хадасевіча, наведаў 8 ліпеня, дзе сустрэўся з журналістамі нашага тыднёвіка і „Часопіса” ды ўдзельнікамі беларускага літаратурнага і палітычнага жыцця тут.

Пасол пацікавіўся жыццём і праблемамі беларусаў Беласточчыны. Лічыце, што я амаль нічога на гэтую тэму не ведаю — заявіў ён. Пра арганізацыйны аспект жыцця беларусаў расказаў галоўны рэдактар „Нівы”. Сказаў ён пра фінансавыя клопаты арганізацый, упадак навучання беларускай мовы ў вясковых школах, адсутнасць такога навучання ў горадзе. Пятро Крук, старшыня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, звярнуў увагу на раз'яднанне мясцовых беларусаў — не ўсе арганізацыі ўвайшлі ў Беларускі саюз. Думку гэту працягваў Віктар Швед, намеснік старшыні Саюза. Намагаемся — гаварыў ён, — каб Беларускі саюз быў мацнейшым прадстаўніцтвам у дачыненнях з польскімі ўладамі. Не заўсёды гэта атрымліваецца, але намаганне такое ёсць. В. Швед пазнаёміў таксама пасла з літаратурным рухам на Беласточчыне ў рамках Аб'яднання „Белавежа”.

На сустрэчы гаварылася таксама і пра шмат іншых, больш дэталёвага характару, спраў. Пасол Георгій Таразевіч даваў тут свае адказы, прапанаваў магчымыя варыянты вырашэння тых ці іншых пытанняў. На ўдзельніках сустрэчы пасол зрабіў уражанне перад усім шчырасцю сваіх выказванняў. На развітанне пасол Таразевіч падараваў удзельнікам сустрэчы карту Рэспублікі Беларусь па-беларуску; усе назвы на ёй транслітараваны на лацінку, але ж беларускія.



*Пасол Георгій Таразевіч (справа) на святкаванні Купалля ў Белавежы. Побач: Галіна і Пётр Краўчанка (міністр замежных спраў Беларусі), консул Ігар Хадасевіч і мастак Эдуард Агуновіч.*

**АЛЕСЬ МАКСІМЮК**
**Фота Сяргея Грынявіцкага**

## РЭКАМЕНДАВАЛІСЯ КАНДЫДАТЫ

7 і 8 ліпеня па беларускім тэлебачанні праводзілася асаблівая прэзентацыя двух кандыдатаў на пост прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — Вячаслава Кебіча і Аляксандра Лукашэнкі. Пасля двух гадзін выказванняў немагчыма было зарыентавацца, якая ў кандыдатаў праграма на будучыню. Лукашэнка і Кебіч даказвалі беларусам, што кожны з іх — найлепшы гарант эканамічнага аб'яднання Беларусі з Расеяй, што абазначае ліквідацыю свае дзяржаўнасці, а таксама што яго сапернік — гэта скарумпаваная персона або дэмагог, ілгун і манюка.

8 ліпеня кандыдаты адказвалі на пытанні журналістаў — расейскіх, зразумела, хаця — пардон — было двух беларусаў. Зразумела таксама, што ўвесь час размова вялася на „обшчапанятнам языке”. Беларусь дайшла да таго стану, што ў другім туры выбараў не стала кандыдата на найвышэйшы пост у дзяржаве, які ведаў бы родную мову.

Спадары Лукашэнка і Кебіч выказаліся за тое, каб вярнуць папярэдні стан вытворчасці беларускай прамысловасці, каб уся гаспадарка была пад кантролем дзяржавы, каб наступіла поўная эканамічная інтэграцыя з Расеяй і што трэба захаваць суверэнітэт. Пэўна нават не ведалі шаноўныя кандыдаты ў прэзідэнты, што ігнаравалі народ, трактуючы яго як зборышча ідыётаў. А народ, пасля некалькіх дзесяткаў гадоў розных эксперыментаў, пэўна ж таксама не заўважыў, што хтосьці выкарыстоўвае яго наіўнасць. Той, хто прапануе вярнуць вытворчасць на ўзровень савецкай эпохі, павінен перш за ўсё вярнуць усе эканамічныя і палітычныя структуры, у тым ліку — Савецкі Саюз, Савет эканамічнай узаемадапамогі, Варшаўскі дагавор і халодную вайну. Тады толькі поўным махам пачалася б круціцца ваенная прамысловасць і ўсе іншыя галіны цесна з ёю звязаныя.

Патрабаваць, каб эканоміка была пад кантролем дзяржаўнай бюракратыі і змагацца з карупцыяй гэта так як у магазін з алкаголем паставіць на працу алкаголіка і загадаць яму не піць назапашаныя там напіткі.

Гаварыць пра суверэнітэт, калі ў краіне расейская адміністрацыя, асвета, культура і мова, калі гаспадарка знаходзіцца пад кантролем маскоўскага банка, можа толькі шызафрэнік... альбо і зусім нармальны чалавек, калі мае ён на ўвазе суверэнітэт Расеі, а Беларусь лічыць яе губерніяй.

Хто б не выйграў выбары 10 ліпеня, для Беларусі гэта не мае вялікага значэння. Перамога Лукашэнкі абазначае, што напэўна будуць персанальныя змены. Былыя камсамольцы заступяць сваіх старэйшых таварышаў. Невядома зусім, якімі палітычнымі прынцыпамі будуць кіравацца гэтыя людзі і які будзе іх уплыў на прэзідэнта. Тое, што гаварыў перад выбарамі Лукашэнка, неабавязкова мусіць ажыццяўляцца. Практыка польскага палітычнага жыцця даказвае, што адно гавораць кандыдаты перад выбарамі, а пасля робяць другое, выконваючы абавязкі прэзідэнта, пасла, сенатара. Надзея для Беларусі заключаецца ў тым, што Лукашэнка, заняўшы пост прэзідэнта дзяржавы, захоча ім быць у сапраўднасці і не памянае яго на крэсла менскага губернатара.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

## МІЛЕЙЧЫЦКАЯ ДАЎНІНА

Мілейчыцы знаходзяцца ў 30 кіламетрах на поўдзень ад Бельска-Падляшскага і 20 кіламетраў на паўночы ўсход ад Сямяціч, над рачулкай Крупа, прытокам Нурчыка. Назва Мілейчыцы патранімічная ад асабовай Мілейко (дэрыват ад царкоўнага Мілій, польскі Мілей). Мілейчыцы былі на „вялікай берасцейскай дарозе”, якая спалучала Брэст з Бельскам цераз Высокае-Літоўскае.

Захаваўся дакумент, між іншым, пра ахвяраванне грошай каралём Зыгмунтам І для мілейчыцкай царквы ў 1529 годзе. У 1566 годзе Мілейчыцы ўжо 50 гадоў былі горадам і мелі 108 валок зямлі (валока — мера зямельнай плошчы, каля 6,5 га). З дакумента даведваемся, што тут было дванаццаць рамеснікаў, у тым ліку кавалі, кушнеры, краўцы, ганчары і ўсяго адзін шавец. Дзейнічалі ў горадзе дзве мядовыя карчмы, дзесяць гарэлачных і пятнаццаць піўных.

У 1589 годзе ўладальнікам горада Мілейчыцы быў віленскі пан Ян Кішка, а ў 1618 годзе — канцлер Леў Сапега. У 1789 годзе ў Мілейчыцах пражывала 144 гаспадароў, якія былі звольнены ад прыгону, г.зн. не працавалі на панскім полі, а толькі плацілі чынш.

У 1794 годзе царыца Кацярына II надзяліла Мілейчыцамі графа Мікалая Румянцава. Той перадаў іх літоўскаму шляхціцу Ягіміну. Чарговымі ўладальнікамі былі Цукербэкер і Клейн. У 1848 годзе арандатарамі мястэчка былі Бухавецкі і Клейн. Яны прымушалі мілейчукоў ісці на прыгон, дык тыя збунтаваліся. Найбольш бурныя падзеі ў барацьбе мілейчукоў супраць прыгону адбыліся ў 1820—1824 гадах. У 1820 годзе яны адлупцавалі эконома, у 1822 — згарэў панскі двор, а ў 1823 і 1824 гадах спатрэбілася паліцыя і ўзброеныя салдаты, каб уціхамірыць узбунтаваных. Згаданыя ўладальнікі ахвотна аддалі мястэчка брату гродзенскага губернатара — Андрэйкавічу, які меў да помачы войска і паліцыю. Спрэчка паміж жыхарамі Мілейчыц і ўладальнікамі мястэчка цягнулася шмат гадоў.

У 1847 годзе Мілейчыцкі праваслаўны прыход налічваў 812 мужчын і 774 жанчыны. У Мілейчыцах былі дзве багата абсталяваныя царквы: святога Мікалая і святой Варвары. Актыўна дзейнічала царкоўнае брацтва, якое аб'ядноўвала каля 200 асоб. Ганаровымі членамі яго былі, між іншым, княгіня Кацярына Паўлаўна Шырынская-Шахматава і Елізавета Сямёнаўна Ляміна, багатая ўдава па маскоўскім купцу. Ад іх абедзве царквы атрымалі каштоўныя рэчавыя ахвяраванні.

У 1878 годзе ў прыходзе пражывалі 2 164 асобы (1 091 мужчына і 1 073 жанчыны). Да яго належалі: мястэчка Мілейчыцы ды вёскі Хані, Хурсы, Ялтушчыкі, Грабарка, Клімковічы, Ханькі, Касцюковічы, Сабятына, Нурэц, Нурчык, Быстры і Сасіны. У 1885 годзе Мілейчыцы налічвалі 1 558 жыхароў (771 мужчына і 817 жанчын).

У 1894 годзе было 2 563 прыхаджан, якія жылі ў 304 дамах.

8 верасня 1900 года закончылася пабудова новай прыхадской царквы св. Варвары.

З 1870 года існавала ў Мілейчыцах царкоўна-прыхадская школа, а ў 1905 годзе — жаночая царкоўна-прыхадская школа, прыхадское ды народнае вучылішчы, у якіх займалася 250 дзяўчат і юнакоў.

У 1900 годзе ў Мілейчыцах было 105 дамоў, у Сабятыне — 39, у Грабарцы, Клімковічах і Нурчыку — па дзесяць, у Нурцы — дзевятнаццаць, у Ялтушчыках — шэсць, у Касцюковічах — восем, у Ханях — сем ды ў Ханьках і ў Хурсах — па чатыры. У 1910 годзе ў Мілейчыцкім прыходзе было 1 987 вернікаў, у тым ліку 1 004 мужчыны і 983 жанчыны.

Набліжалася І сусветная вайна. 1 жніўня 1915 года з Мілейчыц у глыб Расіі былі вывезены сем царкоўных званоў. У тым жа месяцы многія жыхары Мілейчыцкага прыхода выехалі ў Расію. Вяртанне іх пачалося ў 1919 годзе.

У 1920 годзе ў Мілейчыцкай акрузе зарэгістраваная была наступная колькасць дамоў і жыхароў: Мілейчыцы — 134 дамы і 1 074 асобы, Сабятына — 62 і

☞ *Працяг на стар. 3*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Jerzy Ignaciuk, wójt gminy Bielsk-Podlaski jeszcze do niedawna był Białorusinem. Chodził do białoruskiego liceum, działał w ruchu narodowym, matka była białoruską nauczycielką. Wtedy uważałem, że jestem Białorusinem — mówi Ignaciuk. Kiedy zacząłem się interesować historią, wszystko zrozumiałem. Moja ukraińskość nie jest wyssana z mlekiem matki, jest wyczytana, akademicka.*

*Skąd się nagle wzięli Ukraińcy na Białostocczyźnie, dziwią się jednakowo Polacy i Białorusini. Wójt Ignaciuk wyciąga współczesne atlasy ze spisami ludności z końca ubiegłego wieku, według których między Narwią a Bugiem żyło wówczas 63 tysiące Ukraińców, 7 tysięcy Białorusinów, Rosjan — 10 tysięcy. Polaków nie było w ogóle.*

*Ksiądz katolicki oburza się. W XIX wieku chłopi tutejsi w ogóle nie byli w stanie określić kim są. Ludność prawosławna Podlasia nie jest mniejszością narodową, ale rdzenną ludnością polską, zruszczoną w czasie zaborów i pod przymusem przypisaną do kościoła prawosławnego. Rosyjskie kazania w cerkwi to najlepszy dowód, że tu nie ma mniejszości, tylko zrusyfikowani przez wieki polacy — uważają polscy intelektualisci.*

*Jerzy Hawryluk, historyk z Bielska Podlaskiego, redaktor ukraińskiego dwumiesięcznika „Nad Narwią i Bugiem" Radziwiłłów, Sapiehów, Chodkiewiczów uważa za szlachtę ukraińską, napisał ostatnio książkę o ukraińskości tych ziem. Igor Szczerba z Zarządu Głównego Ukraińców w Polsce zapewnia, że między Narwią a Bugiem są tereny etnicznie ukraińskie, czego dowodzą wykopaliska archeologiczne. Wójt Ignaciuk także powołuje się na wykopaliska.*

*(Życie Warszawy, 10.06.1994)*

* * *

*Ludzie, k... wasza mać, żyjemy w wolnym kraju, w państwie prawa!*

*(Polityka, nr 27)*

* * *

*Posłowie koalicji i opozycji, wyjątkowo zgodnie postanowili podnieść sobie diety i ryczałty poselskie. Teraz poseł otrzyma 16 milionów. To ważna decyzja dla rozwoju demokracji i parlamentaryzmu, bo za dwa tygodnie pojadą na wakacje.*

*(Nie, nr 26)*

**Дэпутаты РП не з'яўляюцца звычайнымі эгаістамі, думалі не толькі пра сябе. На 40% павысілі плату прэзідэнту, прэм'еру, міністрам, маршалкам Сейма і Сената і для некалькіх тысяч дзяржаўных ураднікаў. Як сказаў адзін з дэпутатаў, выбарчая кампанія — гэта інвестыцыя, якая акупляецца за адзін месяц.**

* * *

*Maciej Giertych, lider Stronnictwa Narodowego nie ukrywa swojej opinii o mniejszościach narodowych. — Powinni dostosować się do tradycji narodu, z którym chcą mieszkać, bądź wrócić do siebie — twierdzi zdecydowanie.*

*(Kurier Poranny, nr 133)*

* * *

*Kto wymyślił, żeby Hajnówkę kreować na centrum białoruskiej kultury — oburza się znany malarz Leon Tarasewicz — przecież to jest wieś, gdzie przerabia się drzewo.*

*(Życie Warszawy, 10.06.94)*

**Нам здаецца, што справа вельмі добра прадуманая. І так лёс аказаўся беларусам надта ласкавы, бо гэты цэнтр таксама добра можна было б стварыць у Коматаўцах.**

* * *

*Powstrzymanie się Kościoła w ubiegłorocznych wyborach parlamentarnych od wyraźnego wypowiedzenia się za określoną partią, przyczyniło się do klęski partii prawicowych. Zapewne tym poczuciem winy można tłumaczyć najostrzejszy od kilkunastu lat atak biskupów na demokratycznie wybrane najwyższe organy państwa, tuż przed wyborami do gmin.*

*(Polityka, nr 26)*

* * *

*Rozpad ZSRR spowodował „schizofrenię" wśród piłkarzy tego kraju, którzy najpierw czuli się Litwinami, Ukraińcami, Białorusinami. Potem na krótko (na czas mistrzostw świata — red.) zostali Rosjanami.*

*(Gazeta Współczesna, nr 124)*

**Яшчэ адна драма савецкага люду.**

* * *

*Sprawdzone zasady odpraw podróżnych na Białorusi trzymają się mocno. Kto może stawia szlabany na drodze: najpierw policja, potem tamożnia, wreszcie pogranicznicy. Porządek musi być (jest rzadko), drobiazgowe patroszenie bagażu, badanie zgodności licznych pieczęci i świętowanie obiadowej przerwy. Skutek: kolejki na kilkanaście kilometrów.*

*(Rzeczpospolita, nr 150)*

**Як пастаіць такі ў чарзе 2—3 дні, тады навучыцца шанаваць уладу!**

* * *

*Polacy zawsze czuli się najlepiej w roli pokrzywdzonych, sponiewieranych i pobitych. A już najlepiej, jeśli sponiewierali, skrzywdzili i pobili sami siebie.*

*(Gazeta Współczesna, nr 125)*

* * *

*Lenin był geniuszem chamstwa. Rosjan nienawidził. Był kosmopolitą z przewagą krwi azjatyckiej, prezentował charakterystyczny ruch bezinteresownego okrucieństwa.*

*(Polityka, nr 26)*

**А яшчэ не так даўно ў гэтай жа самай „Палітыцы" пісалі, як Ленін любіў дзяцей, колькі дабра зрабіў рабочым і сялянам, як займаўся аховай помнікаў культуры... (асабліва цэркваў).**

* * *

*Telewizja kłamie jak zawsze, tyle że teraz zakłamuje rzeczywistość, często nie z rozmysłu, ale za strachu i bałaganu* — сказаў Ян Петшак.

***(Telerzeczpospolita, nr 26)***

* * *

*Polacy wrócą ze stepów Kazachstanu — ale kto zapewni im byt materialny w kraju. Ścianę wschodnią należy co najmniej zasiedlić, jest ku temu okazja — tylko kto poniesie koszta tego precedensu.*

*(Kurier Poranny, nr 131)*

**Тыя, што плацяць падаткі.**

* * *

*Mistrzostwa świata w piłce nożnej cieszą się w Stanach Zjednoczonych taką samą popularnością jak rozgrywane równocześnie IV Igrzyska Sportowe Gejów.*

*(Wprost, nr 28)*

## З мінулага тыдня

**У Белавежы** ўжо дзесяты раз Беларускае грамадска-культурнае таварыства ладзіла **Купалле**. Сёлета ў святкаванні гэтага старажытнага земляробчага свята прынялі ўдзел 22 калектывы з Беласточчыны і Беларусі. Сярод гасцей былі, між іншым, віцэ-міністр культуры і мастацтва **Міхал Ягела**, міністр замежных спраў Беларусі **Пятро Краўчанка**, надзвычайны і паўнамоцны пасол РБ у Польшчы **Георгій Таразевіч** (*рэпартаж з белавежскага Купалля змесцім у адным з бліжэйшых нумароў*).

**Варшаўская фабрыка легкавых аўтамабіляў** імкнецца ўвайсці на літоўскі рынак і наладзіла ўжо кантакт з літоўскай фірмай „Варыта", якая зоймецца дыстрыбуцыяй і створыць сетку абслуговых пунктаў польскіх аўтамабіляў. Спецыялісты мяркуюць, што ў Літве можна прадаць 1000 легкавушак маркі „Паланез" у год па 6 тысяч долараў, значыць, значна танней за заходнія маркі.

**Палякі**, якія знаходзяцца за межамі Польшчы, маюць права на вяртанне на Радзіму, а польскае грамадства і дзяржаўныя ўлады абавязаны сарганізаваць ім вяртанне, — напісалі ў лісце да маршалка **Сейма Юзэфа Алексага** прадстаўнікі шчэцінскага Форуму ініцыятыў на карысць рэпатрыяцыі палякаў з Казахстана. Аўтары ліста сцвярджаюць, што пасляваенны закон аб рэпатрыяцыі не быў скасаваны і патрабуюць, каб на яго аснове аднавіць дзейнасць Дзяржаўнай рэпатрыяцыйнай установы.

**Гродзенскае аддзяленне Беларускага фонду культуры** пачало выдаваць рэгіянальны гістарычна-культурны часопіс **„Свіцязь"**. Задуманы ён як выданне, разлічанае таксама на беларусаў Беласточчыны, Віленшчыны і нават Латвіі. Частка аднатысячнага тыражу будзе распаўсюджвацца ў Беластоку. Гэты першы на Гродзеншчыне часопіс, які з'явіўся за 50 гадоў існавання вобласці, рэдагуе старшыня фонду прафесар **Сяргей Габрусевіч.**

**У I Сейміку моладзі Усходняй і Сярэдняй Еўропы**, які праходзіў у Кракаве, удзельнічалі 160 маладых людзей з Літвы, Беларусі, Украіны, Расеі, Венгрыі, Нямеччыны, Польшчы, Славакіі, Чэхіі, Балгарыі і Славеніі. На Ягелонскім універсітэце адбыўся сімпозіум, прысвечаны культурным, гістарычным і гаспадарчым тэмам, характэрным гэтай часткі кантынента ў ходзе інтэграцыі Еўропы. Мэта сімпозіума — інтэграцыя моладзі ў духу талерантнасці і дружбы.

**На II сесіі Гарадской рады ў Беластоку** прэзідэнтам горада выбраны **Анджэй Люсса**, рэкамендаваны правым выбарчым камітэтам „Адзінства". За яго кандыдатуру прагаласавала 27 радных, супраць — 14, устрымаліся — 9. Прэзідэнцкую месячную зарплату ўстанавілі на 22 700 тысяч злотых.

**У Рыбаках** на Нарве праходзіў **IV Міжнародны сімпозіум народнай музыкі Усходняй і Цэнтральнай Еўропы.** Сем дзён навукоўцы з Польшчы, Літвы, Украіны, Расеі і Беларусі вялі спрэчкі на тэму традыцыйнай інструментальнай музыкі і сувязей музыкі з вясковым фальклорам. На другім тыдні калектывы з Літвы, Украіны і Беларусі выступалі з канцэртамі ў падпушчанскіх мясцовасцях. Арганізатар сімпозіума — Фонд „Музыка крэсаў" з Любліна.

**У Сямяцічах** адбылася іншая крэсовая імпрэза — **III Прэзентацыя культуры польскіх крэсаў „Сямяцічы-Мельнік'94".** Пасля агляду калектывы цэлы тыдзень займаліся на музычных курсах польскага фальклору, патрыятычнай песні і нацыянальных танцаў. Заняткі для польскіх калектываў з Беларусі і Літвы вялі прафесійныя музыканты і харэографы.

**Сёлетняе гарачае надвор'е** спрыяе пажарам. Апошнім часам пажарнікі часта выязджаюць тушыць агонь у лясах. У адзін ліпеньскі дзень загарэліся лясы ў Плянтах (Міхалоўская гміна), Сухаволі, Беластоку, Храбалах (Бельская гміна), Коматаўцах (Гарадоцкая гміна). Прычынай пажараў былі падпалы або неасцярожнасць пры карыстанні агнём.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

→ „Купалле" ў Белавежы.

→ „Басовішча" ў Гарадку.

→ Даўно таму ў Заблудаве.

→ Як у Нарве і Бельску выбіралі выканаўчую ўладу.

Спадару

**БАРЫСУ РУСКО**

**сардэчныя спачуванні з прычыны напаткаўшага Яго гора**

**— смерці Бацькі**

**выказвае**

**рэдакцыйны калектыў тыднёвіка „Ніва"**

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Першы прэзідэнт

Завяршыўся другі тур прэзідэнцкай кампаніі. 10 ліпеня свой грамадзянскі абавязак выканалі 69,9% выбаршчыкаў, унесеных у спісы для тайнага галасавання. Першым прэзідэнтам дзяржавы стаў **Аляксандр Лукашэнка**, які атрымаў 80,1% галасоў. А за Вячаслава Кебіча прагаласавала ўсяго 14,1% выбаршчыкаў. На другі дзень В. Кебіч заявіў аб сваёй адстаўцы з паста прэм'ер-міністра.

### Некаторыя асаблівасці свята

Інцыдэнт, які адбыўся на плошчы Перамогі ў Менску ў дзень святкавання 50-годдзя вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў, усхваляваў дэмакратычныя колы сталіцы. Калона Беларускага народнага фронту, якая маршыравала пад сцягамі ўсіх дзяржаў-удзельніц антыгітлераўскага блока і ў якой ішлі народны пісьменнік Васіль Быкаў, адзін з аўтараў Помніка Перамогі Георгій Заборскі, прадстаўнікі Дэмакратычнага аб'яднання ветэранаў ды актыў БНФ, не была прапушчана для ўскладання кветак на плошчы. У сувязі з інцыдэнтам лідэр БНФ Зянон Пазьняк звярнуўся ў пракуратуру, а Алег Трусаў ад імя БСДГ запатрабаваў судовага разбору.

### Новыя выданні

У менскім выдавецтве „Хата" выйшла кніжка „Армія Краёва на Беларусі", у якой змешчаны унікальныя дакументы і іх аўтарская інтэрпрэтацыя Яўгена Сямашкі. „Калі вывад тае кнігі, — сказаў дырэктар выдавецтва Валеры Санько, — што АК нельга прызнаваць на Беларусі (не ў Польшчы; яна змагалася за польскія законы, і палякі яе прызналі — слава і гонар ім), што немагчыма рэабілітаваць яе ў нас, то асуджаць гэтага нельга".

У Інстытуце гісторыі Акадэміі навук адбылася прэзентацыя новай кнігі „Нарысы гісторыі Беларусі". У ёй упершыню з нацыянальнага пункту гледжання падаецца гісторыя нашай бацькаўшчыны — ад старажытных часоў да лютаўскай рэвалюцыі 1917 г.

### Шагалаўскія дні

Вялікім канцэртам Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра, які ўпершыню выканаў дзве сімфанічныя карціны ў гонар Марка Шагала французскага кампазітара і дырыжора Марка Блезэ, у Тэатры імя Якуба Коласа закончыліся ў Віцебску „Шагалаўскія дні". Яны ўключалі ў сабе і музычны фестываль „Скрыпка Шагала", і шагалаўскія чытанні, і I Міжнародны шагалаў пленэр, які ААН унесла ў лік мерапрыемстваў, прысвечаных 50-годдзю гэтай арганізацыі. Падводзячы вынікі сёлетніх шагалаўскіх дзён, якія ўпершыню сабралі пад сцягам майстра практычна ўвесь свет, мастацтвазнаўцы, мастакі, журналісты Беларусі, краін блізкага і далёкага замежжа адзначалі галоўны факт — аб'яднанне людзей светастваральнай энергіяй Шагала.

### Валанцёры ў Менску

Шасцёра валанцёраў з краін Заходняй Еўропы прыехалі ў Менск. Сумесна са студэнтамі сталічнага Медыцынскага інстытута яны бясплатна працуюць на базе V Дзіцячай клінічнай бальніцы, даглядаючы дзяцей, што пакутуюць на цэрэбральны параліч (porażenie mózgowe). Неўзабаве яшчэ 15 іншаземцаў-валанцёраў прыедуць у Беларусь папрацаваць у дзіцячым лагеры „Зубраня".

### Добраахвотнікі з Беларусі

У штаб-кватэру Праграмы добраахвотнікаў ААН высланы каля 20 анкет кандыдатаў з ліку жыхароў Беларусі для служэння ў гэтай самай гуманнай у свеце арміі. Адборам жадаючых паехаць у гарачыя месцы нашай планеты ў рэспубліцы займаецца прадстаўніцтва ААН сумесна з Нацыянальным цэнтрам па адбору добраахвотнікаў пры Міністэрстве эканомікі. Дарэчы, для работы ў якасці добраахвотнікаў за ўвесь час былі накіраваны толькі два беларусы-спецыялісты: у Чад і Танзанію.

### Сяброўскі фонд

Фонд дапамогі бедным студэнтам і маламаёмасным ветэранам Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ўстанавілі былыя выпускнікі эканамічнага факультэта гэтай навучальнай установы. Адны з іх ужо сталі прафесарамі, членамі-карэспандэнтамі Акадэміі навук, другія — вядомымі кіраўнікамі і працвітаючымі бізнесменамі. На 30-гадовым юбілеі свайго выпуску, яны ўспомнілі нялёгкае былое студэнцкае жыццё, праніkліся спачуваннем і вырашылі стварыць спрыяльную асацыяцыю з фондам дапамогі маладому пакаленню і ветэранам.

### Павысіліся закупачныя цэны

Роўна тры месяцы пратрымаліся новыя закупачныя цэны на мяса. Нядаўна, на радасць вяскоўцаў, яны падскочылі ў паўтара раза на ялавічыну і ў 1,8 раза на свініну. Цяпер перапрацоўчыя прадпрыемствы за кілаграм жывой вагі буйнай рагатай жывёлы плацяць 7 450, а свіней — 13 760 рублёў. Што датычыць рознічных цэн, то яны засталіся ранейшымі. Усе выдаткі вытворчасці ўрад зноў вырашыў пакрываць з бюджэта.

### Мацнейшы за машыну

Не перавяліся яшчэ ў Маладзечне сапраўдныя асілкі. Дык вось адзін з іх на падпітку гуляў па вуліцы Касманаўтаў і ўрэзаўся ў легкавушку, якая стаяла на ўзбочыне вуліцы. Звалiўшыся на капот, гуляка памяў яго, ну а сам ад гэтага сутыкнення не пацярпеў.

# НЯДЗЕЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА

Хаця пасяджэнні Гміннай рады Бельска праводзяцца ў тым самым месцы, што і гарадской, карыстаюцца яны куды меншым зацікаўленнем. Нават тое — у нядзелю 10 ліпеня — калі выбіралі войта. Апрача саміх радных ды членаў Гміннай управы, на пасяджэнні прысутнічалі (уключна са мною) яшчэ 4 асобы. Курцам не трэба было выходзіць з цыгарэтай у калідор, бо дым расплываўся ў прасторнай зале, не псуючы здароўя тым, хто не курыць. У час галасавання ніхто не карыстаўся кабінай, якую — па прапанове апазіцыі — дзеля поўнай тайнасці казаў паставіць старшыня Гарадской рады Васіль Ляшчынскі.

Лёс войта Бельскай гміны на практыцы вырашыўся ўжо да гэтай сесіі, калі другі прэтэндэнт на пасаду Мікалай Якубюк зняў сваю кандыдатуру. Такім чынам, адзіным кандыдатам быў ранейшы войт Юры Ігнацюк. Было мала праўдападобным, што радныя, якія нават не спрабавалі знайсці контркандыдата, будуць галасаваць супраць яго асобы.

Але нават такую загадзя вырашаную і, здавалася б, нудную справу можна ажывіць. Паказалі гэта радныя Заброцкі і Марчук, якія раней былі запрапанавалі на войта таго ж Якубюка. Калі іх палымяныя прамовы супраць Ігнацюка не далі ніякіх рэзультатаў, адмовіліся яны прыняць удзел у выбарах. Усе астатнія 18 радных прагаласавалі, як можна было прадбачыць — за. Адна з радных падганяла сваю сяброўку з выбарчай камісіі: „Ola, szybciej zbieraj kartki, dziś niedziela!”

Цяжка мне ацаніць, як на галасаванне паўплываў факт, што крыху раней радныя вызначылі сабе зарплату за ўдзел у адным пасяджэнні рады роўную 1000% найніжэйшых у краіне камандзіровачных (дыеты), што на сённяшні дзень складае суму 470 тысяч і адпаведна будзе расці. На прапанову раднага Заброцкага, каб выбар войта адтэрмінаваць, бо „ў сапраўднай дэмакратыі не можа быць толькі адзін кандыдат”, адрэагаваў сам Ігнацюк. Сказаў ён, што радных абавязваюць пэўныя законы. Калі яны не выберуць войта на двух першых сесіях (гэта была якраз другая), то ваявода будзе кіраваць гмінай з дапамогай свайго камісара. На гэта з залы азваўся голас: „Тады толькі і будзем бачыць свае паўмільёна”.

**М. В.**

# Юбілей дубіцкіх пажарнікаў

26 чэрвеня ў Дубічах-Царкоўных адбыліся святкаванні 75-годдзя мясцовай добраахвотнай пажарнай каманды. Яе пачаткі сягаюць часоў I сусветнай вайны, калі ў Дубічах войска пакінула ручную помпу. У 1919 г. жыхары вёскі стварылі групу людзей, якія апекаваліся пажарнымі прыладамі, а потым заснавалі каманду. Адным з яе заснавальнікаў быў Кузьма Анапрыюк. У трыццатых гадах за арэнду сваіх палёў жыхары атрымалі ад паляўнічых другую, больш магутную, помпу, якая зараз знаходзіцца ў зале традыцыі Раённай пажарнай камендатуры ў Гайнаўцы. У той час дубіцкія пажарнікі пабудавалі драўлянае дэпо і сталі абсталёўваць пажарны воз. У II сусветную вайну ад бомбы згарэла дэпо і ўся дакументацыя. Пасля вайны дэпо адбудавалі, а члены каманды закончылі курсы па абслугоўванню пажарнай тэхнікі. Першымі абучэнне па эксплуатацыі мотапомпаў закончылі Дзмітрый Кірылюк і Ян Хіліманюк, а па камандаванню пажарнай часцю — Дзмітрый Анапрыюк. Пазней пажарнікі ініцыявалі падубову грамадскімі сіламі мураванага дэпо сумесна з клубам селяніна, якія былі здадзены ў карыстанне ў 1964 годзе. Неўзабаве прыдбалі яны пажарны аўтамабіль „Стар-25”. У наступных гадах пажарнікі самі пабудавалі вежу для сушэння шлангаў. У сямідзесятых гады пажарнікі атрымалі навейшы „Стар-25” з аўтацыстэрнай. У васьмідзесятых праводзілася мадэрнізацыя Гміннага асяродка культуры і пажарнага дэпо. Тады менавіта яны атрымалі чарговую машыну маркі „Ельч”. Пасля некалькіх гадоў у месца зношанага аўтамабіля „Стар-25” атрымалі машыну „Жук”, а сёлета — „Шкоду”.

На юбілейныя святкаванні прыехалі многія госці з ваяводства. Урачыстасць пачалася перад домам культуры. Спачатку зайграў духавы аркестр чыгуначнікаў з Чаромхі, а затым адбылася перадача згаданай ужо аўтацыстэрны „Шкода”, ёмістасцю з 3 500 літраў, якую пасвяціў капелан пажарнікаў з Беластока і настаяцель мясцовага прыхода а. Віталій Гаўрылюк. Пасля ў зале дома культуры ўдзельнікі святкавання паслухалі даклад аб гісторыі мясцовай пажарнай каманды і былі сведкамі ўручэння заслужаным пажарнікам медалёў. Сама каманда была ўзнагароджана „Залатым медалём заслугі”, які прысвоіла ёй Галоўнае праўленне Добраахвотных пажарных каманд. У мастацкай частцы выступіў калектыў „Шпілька” з Беластока.

У далейшым урачыстасць працягвалася на вадасховішчы, што на рацэ Арлянцы. Тут пажарнікі з Раённай камендатуры ў Гайнаўцы арганізавалі паказ сучаснага пажарна-тэхнічнага абсталявання і яго прымянення падчас тушэння агню. Святкаванне завяршыла супольнае вогнішча. На жаль, не было традыцыйнай танцавальнай вечарыны — т. зв. стражацкай забавы.

Старшыня Гміннага праўлення Добраахвотных пажарных каманд Аляксандр Кулік падкрэсліў заангажаванасць мясцовай каманды, Гміннай рады і працаўнікоў Гміннай управы ў падрыхтоўку юбілею, а асабліва ўклад старшыні Яўгена Кірылюка і начальніка Сцяпана Марчука.

Старшыня каманды Яўген Кірылюк паінфармаваў, што яго часць налічвае 33 пажарнікаў і 12 членаў маладзёжнага атрада. Наракаў ён, што апошнім часам вышэйшыя пажарныя структуры не арганізуюць абучэнняў і курсаў, у выніку чаго маладыя пажарнікі не маюць адпаведнай падрыхтоўкі і часам здараецца, што тушаць агонь, не адключыўшы электратоку.

За кансервацыяй абсталявання ўжо тры гады наглядае Канстанцін Качко, які раней 13 гадоў працаваў у Раённай камендатуры ў Гайнаўцы. Апрача яго вадзіць машыну маюць права Міхал Млодзян і Ян Карнілюк. Запамяталіся яму дзве пажарныя акцыі: пажар клуні ў Войнаўцы 10 гадоў таму, калі ў полымі згарэла двое дзяцей і пажар запаведніка „Елянка”, калі агонь паглынуў звыш ста гектараў лесу. Канстанцін Качко паведаміў таксама, што ў іх ёсць тры гаражныя боксы для „Ельча” (ёмістасцю ў 6 000 л вады і 600 л пенаўтваральніка), „Жука” і „Шкоды”. Супольна з Гміннай управай пажарнікі карыстаюцца механічнай майстэрняй, у якой рамантуюць зношанае абсталяванне. Ці пры яго дапамозе можна паспяхова ахоўваць ад пажараў гміну, пакажа час. Трэба памятаць, што ў Дубіцкай гміне знаходзіцца 7 018 гектараў лясоў, у тым ліку і фрагменты Белавежскай пушчы разам з запаведнікам „Старына”. Карыстаючыся нагодай, жадаю пажарнікам з Дубіч-Царкоўных чарговых юбілеяў і як найменш пажараў.

**СЛАВАМІР КУЛІК**

# МІЛЕЙЧЫЦКАЯ ДАЎНІНА

☛ *Працяг са стар. 1*

530, Нурэц — 30 і 325, Белкі — 32 і 206, Снежкі — 43 і 230, Быстры — 29 і 148, Сасіны — 26 і 144, Грабарка — 18 і 139, Клімковічы і Хані — па 12 і 105, Касцюковічы — 9 і 70, Ханькі — 8 і 69, Нурчык — 11 і 93, Хурсы — 7 і 66 ды Ялтушчыкі — 6 і 49.

У 1926 годзе ў Мілейчыцкую царкву св. Варвары купілі вялікі звон вагою ў 7,5 пуда і чатыры малыя. Жыхары вёскі Хані абгарадзілі царкву драўляным плотам. У 1930 годзе царкву св. Варвары памалявалі ды аднавілі ў ёй стары іканастас, які захаваўся да сённяшняга дня.

У гады ваеннага ліхалецця (1941—1944) немцы запатрабавалі аддаць царкоўныя званы і вывезлі іх у 1943 годзе з мястэчка. У той час паводле дазволу ўлад набажэнствы маглі адбывацца толькі ад 8.30 да 10.30 гадзіны раніцы. У 1941 і 1944 гадах гітлераўцы расстралялі дваццаць чалавек з Мілейчыц і Семіхоч.

20 ліпеня 1944 года савецкае войска выгнала фашыстаў з Мілейчыц, якія падчас бою былі ў палове спалены. Царква св. Варвары і прыхадскія будынкі цудам ацалелі. У 1950 годзе купілі два новыя званы — вялікі і малы. У канцы 1953 года за Мілейчыцамі, у сасновым лесе, пры шашы ў напрамку Сямяціч выдзелілі месца пад новы могільнік, абгарадзілі яго.

У 1959 годзе Мілейчыцы два разы гарэлі ад навальнічных маланак. Згарэла тады 50 дамоў і гаспадарчых будынкаў. Старэйшыя жыхары параўноўвалі страты з тымі, якія нанёс пажар у 1912 годзе, калі датла згарэў цэнтр мястэчка.

У царкоўным архіве ў Мілейчычах захаваліся рукапісныя і друкаваныя дакументы, якія датычаць царквы і прыхода. З канца XIX стагоддзя сістэматычна вядзецца царкоўная хроніка (летапіс).

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

Гміна Белавежа

# ЧАТЫРЫ НЯЛЁГКІЯ ГАДЫ

Новая Рада гміны Белавежа ў пачатку ліпеня г.г. на свайго старшыню выбрала Уладзіслава Валкавыцкага (урадніка Гарадской управы ў Гайнаўцы), а ягоным намеснікам — Рамана Бугвіна (настаўніка Пачатковай школы ў Белавежы). Войтам гміны надалей застаецца Анна Байко. Перад новым самаўрадам процьма абавязкаў, заданняў. Як ён справіцца з імі, пакажа час. Зараз жа можам толькі падвесці вынікі дзейнасці папярэдняй Рады.

— Пачатак самаўрадавай дзейнасці ў 1990 г., — гаворыць войт А. Байко, — гэта амаль 960 мільёнаў злотых даўгоў, галоўным чынам за пабудову ачышчальні сцёкаў і часткова за мадэрнізацыю кіно ды перабудову пажарнага дэпо. Гэтая задоўжанасць адмоўна адбілася на нашай працы, але з часам нам удалося яе перамагчы.

Найбольш важная інвестыцыя ў гміне ў апошніх гадах — гэта камунальная ачышчальня сцёкаў. Спыненыя ў 1990 г. працы пры яе пабудове ўзнавілі мы ў 1993 годзе, дзякуючы атрыманню з Экафонду 5,4 мільярдаў зл. Неабходным сталася таксама перапрацоўка і актуалізацыя тэхнічнай дакументацыі пабудовы. Ачышчальня паўплывае на паднясенне чыстаты вады ў рацэ Нараўцы.

Таксама з ахвай асяроддзя звязваецца планаваная газіфікацыя гміны. Пакуль што былі праведзены ўступныя размовы і быў прыняты план падрыхтоўкі дакументацыі I этапу прац у Палацовым парку і дзетсадзе.

Працягваліся працы пры перабудове і мадэрнізацыі пажарнага дэпо. Здадзены быў у карыстанне гараж для пажарных аўтамабіляў. Сам будынак ужо атынкаваны, устаўлена сталярка, пракладзены пад'езды у гаражы, добраўпарадкаваны пляц вакол будоўлі.

Закончылася тэлефанізацыя гміны. Апошнім заданнем была пракладка зямнога кабеля ад вуліцы Застава ў Белавежы да вёскі Пагарэльцы. Цэнтральная тэлефонная станцыя атрымала 200 новых нумароў.

У гадах 1993—1994 перабудавалі ўстарэлую энергетычную лінію на вул. А. Вашкевіча. Новыя стаўбы былі пастаўлены ўжо за тратуарам, што вельмі важнае для бяспекі вулічнага руху. Асвятленне атрымала невялічкая вуліца Аградовая.

Белавежа ўзбагацілася таксама дзвюма новымі станцыямі (на вул. Спартовай): трансфарматарнай (падключыліся да яе м. інш. паліцыя і пагранічная застава) і водаправоднай. Праведзены быў тэхнічны кантроль усёй водаправоднай сеткі. Варта пры нагодзе ўспомніць, што дасягнулі высокі паказчык яе эксплуатацыі — 91%. У вёсцы Буды быў адрамантаваны глыбінны калодзеж.

Закончылася мадэрнізацыя стаянкі аўтамабіляў пры вул. Каляёвай (за турыстычным бюро ПТТК). Здадзена таксама ў карыстанне домік для пуцявога абходчыка. Была ўведзена аплата для шафёраў за карыстанне стаянкай.

Шмат увагі адведзена вуліцам і дарогам. У Тэрэмісках на рацэ Лутоўня быў збудаваны новы мост. Дапамагалі ў гэтым — вайсковая часць з Гайнаўкі і надлясніцтва Белавежа, якое дало матэрыял. Адрамантавалі мост на Нараўцы (вул. Мастовая). Выканалі пад'язную дарогу да новай водаправоднай станцыі. На шматлікіх вуліцах рамантавалі асфальтавае палатно. На вул. Лавецкай пастаўлены тратуарныя парэбрыкі, зроблены падземны канал, навезены пясок. Адрамантавалі вуліцы: Броўскую, Мастовую, Завулак Бортнікаў, хутарныя дарогі ў Тэрэмісках і Падалянах, шашу да таварнай станцыі ПКП, дарогу на звалку смецця, што за Вайцяхоўкай, палявыя дарогі ў салэцтвах Стачок і Застава. Папраўлены падзямельныя каналы на вул. Вашкевіча і Каляёвай, а таксама на палявой дарозе ў салэцтве Застава.

На гміннай звалцы смецця збудавалі гаспадарчы домік, увялі пастаянны нагляд і аплату за карыстанне гэтым месцам. Адначасова ліквідаваны былі звалкі ў салэцтвах Застава і Пагарэльцы. У г.г. уведзены пастаянны (раз у месяц) прыём і вываз смецця і адпадаў з панадворкаў прыватных уласнікаў.

Гмінная рада ўпарадкавала справы, звязаныя з дабычай пяску ў кар'еры, што на рагу Броўскай дарогі і вул. Вайцяхоўка (атрымалі на гэта канцэсію).

На вул. Вашкевіча пачаў працаваць часовы базар (ля прадуктова-манапольнай крамы).

Нядаўна выкупілі зямлю на пашырэнне могільніка. Рада гміны прыняла таксама ўхвалу аб стварэнні камунальнага могільніка, што ўсхвалявала большую частку праваслаўных жыхароў гміны. Трэба сказаць, што могільнікам у Белавежы дагэтуль адміністраваў праваслаўны прыход. За месцы на пахаванне не браліся аніякія аплаты. Не было таксама праблемаў з пахаваннем памерлых іншых, чым праваслаўнае, веравызнанняў ці атэістаў.

Многа разнагалосся выклікала высечка старых таполяў на спратыўнай пляцоўцы і пры пачатковай школе (побач будаванай гімнастычнай залы). Людзям тлумачаць, што з гэтых дрэў падрыхтуюць матэрыял на агароджу могільніка і на лаўкі на стартыўнай пляцоўцы. Усё ж, дрэваў шкада!

На сумленні старой Рады будзе таксама ліквідацыя чыгуначнай лініі ў Гайнаўку, што важнае перш за ўсё для жыхароў пасёлкаў Грудкі і Чарлёнка, ліквідацыя трыкатажнага прадпрыемства, які даваў працу шматлікім інвалідам, рост беспрацоўя (з 65 у 1990 г. да 181 чалавек у канцы 1993 г.) і некалькі іншых спраў.

Апошнія чатыры гады ў жыцці гміны Белавежа напэўна не былі лёгкімі і прыемнымі. На жаль, нішто не паказвае, што ў наступных гадах будзе лепш.

**ПЁТР БАЙКО**

# РАЗВІТАННЕ З МІФАМ АБ ТАЛЕРАНТНАСЦІ БЕЛАРУСАЎ

## 1. Адкуль бяруцца міфы

Апошнім часам стала вельмі модным разважаць аб так званай талерантнасці беларусаў. Гэтая славутая талерантнасць ці, інакш, проста цярпімасць стала паступова прадстаўляцца як нейкая адметная нацыянальная рыса беларусаў, як адна з шэрагу лепшых рысаў беларускага характару. Узнікненне погляду аб талерантнасці беларусаў — гэта стварэнне чарговага міфа, якіх было шмат у нашай гісторыі.

І перш чым пайсці далей, нагадаю некаторыя гістарычныя факты, аналізуючы якія, цікава бачыць, як у гісторыю нашага народа з даўніх часоў замацоўваліся міфы. Часам гэтыя міфы разрасталіся да такіх памераў, што за імі ўжо не было відаць праўды. Відавочна, уся адказнасць за скажэнні гістарычнай праўды кладзецца на вучоных-гісторыкаў.

Трэба шчыра прызнаць, што канцэпцыя гісторыі беларускага народа, якую мы атрымалі ў спадчыну ад расейскіх і бальшавіцкіх гісторыкаў, адметная тым, што яна наскрозь прасякнутая ілжывасцю і суб'ектывісцкай інтэрпрэтацыяй гістарычных фактаў. І найбольш спрыяльная глеба для нараджэння міфаў гісторыі была ў эпоху панавання камуністычнай ідэалогіі. Стала ўжо хадзячай назвай „абэцэдаршчына“ — гісторыя Беларусі напісаная, фактычна, па заказу ЦК КПСС.

Выкрыццё міфаў беларускай гісторыі толькі пачынаецца. Нагадаю, што толькі нядаўна, дзякуючы працам Міколы Ермаловіча, быў перагледжаны даўні міф аб быццам бы меўшай месца заваёве літоўцамі старажытнай Беларусі, а потым шматгадовым панаванні іх на нашых землях.

Другі міф, які яшчэ трывае сярод пэўных колаў — гэта міф аб уніі як нацыянальнай рэлігіі беларусаў. Вядома, што яшчэ ў XVI стагоддзі ў выніку дзеяння пэўных палітычных колаў, у Вялікім княстве Літоўскім адбыўся прымусовы перавод большай часткі насельніцтва праваслаўнага веравызнання ў разнавіднасць каталіцызму, якая атрымала назву „грэка-каталіцкай веры“ ці проста — уніі. Зараз гэты факт спрабуюць прадставіць як спраўджванне векавой мары беларусаў стварыць сваю нацыянальную рэлігію. Гэта — самая беспардонная і цынічная хлусня, бо факт уніі быў фактам здрады вярхоў духавенства пад польскім націскам і зроблены толькі дзеля задавальнення сваіх патрэб. А вера не можа быць нацыянальнай ці безнацыянальнай. Яна альбо ёсць, альбо яе няма. А вось носьбіты веры — вернікі, вядома, належаць пэўнай нацыі. Гэта як у матэматыцы — сэнс тэарэм аднолькавы для ўсіх народаў, але мова іх доказаў можа быць рознай.

Трэці міф, аб якім мы і павядзем гаворку — гэта міф аб талерантнасці беларусаў. Узнікненне яго шчыльна звязана з агульнай міфізацыяй нашай гісторыі, і як гэта рабілася, мы зараз убачым.

Існуюць тры галоўныя крыніцы стварэння міфаў беларускай гісторыі. Першая — гэта шавіністычная гісторыя Беларусі, за якую цалкам адказныя расейскія гісторыкі XIX — XX стагоддзяў, пачынаючы ад Н. Карамзіна, Г. Салаўёва і канчаючы вядомым творцам літоўскага міфа В. Пашутам. Гэтыя гісторыкі „стварылі“ канцэпцыю так званых вызваленчых войнаў Івана Жахлівага, прадставілі вялікім героем А. Суворава — можа за тое, што ён задушыў паўстанне Тадэвуша Касцюшкі, сапраўднага беларускага патрыёта. Факт анексіі Расеяй беларускіх зямель у канцы XVIII стагоддзя гэтыя гісторыкі назвалі здзяйсненнем векавых імкненняў беларускага народа „воссоединиться с братским русским народом“. На самой жа справе Беларусь трапіла ў каланіяльнае ярмо Расеі.

Такім чынам, была створана суцэльная ілжэгісторыя, якую нам са школьных гадоў убівалі ў галовы. Атрымалася, што Расея нас выратавала ад панавання палякаў, а бальшавіцкая рэвалюцыя 1917 г. выцягнула цёмных беларусаў з жабрацтва і невуцтва. У мяне нават захавалася характэрная кніга 1958 г. выдання пад назвай „Фарміраванне і развіццё беларускай сацыялістычнай нацыі“. Вось якой нацыяй, аказваецца, сталі беларусы дзякуючы камуністам! І ўсю гэтую бязглуздзіцу мы цярпелі! У гэтым сэнсе беларусы сапраўды „талерантная“ нацыя.

Але не беларусы, не нацыя вінаватыя ў тым, што адбылося. Мы проста былі, ды і зараз з'яўляемся, заняволенай нацыяй як і шэраг іншых нацый савецкай камуністычнай імперыі. Такімі ж па волі лёсу „талерантнымі“ былі і літоўцы, і грузіны, і мардва...

Другая крыніца здзеку над беларускай гісторыяй — польская гістарыяграфія, якая адлюстроўвае пэўную палітычную тактыку Польшчы адносна Беларусі. Яна таксама ўнесла сваю „лепту“ ў стварэнне свайго, польскага варыянта міфа аб беларусах. Асабліва выніковым быў час пасля 20-х гадоў XX стагоддзя, калі частка беларускіх земляў апынулася пад Польшчай, а самі беларусы пасля шматгадовага суіснавання з „вялікай“ Расеяй забыліся аб каранях сваёй старажытнай нацыі, згубілі нацыянальную свядомасць, сталі нейкімі „тутэйшымі“. За нявялікі гістарычны перыяд на спрадвечных беларускіх землях раптам з'явілася ледзь не мільён палякаў! А між тым лёгка бачыць — і зараз пра гэта многія пішуць, напрыклад, Анатоль Сідарэвіч, — што большасць гэтых палякаў ёсць беларусы-каталікі. Мы зноў сутыкаемся з дзіўнай абыякавасцю да сваёй нацыянальнасці шырокіх мас беларусаў, лёгкасцю да здрады свайму народу ў імя лепшага „кавалка кілбасы“, які кідаў заможны польскі „брат“. Гэтыя флюгерныя паводзіны беларусаў пэўны шэраг людзей выдаваў за нешта асаблівае, за нейкую адметную нацыянальную рысу, схаваную потым за навуковападобным словам — „талерантнасць“. Вынікам гэтага з'явілася тое, што некаторыя пазнейшыя даследчыкі нават, не без падстаў, пісалі: „беларусы з лёгкасцю паддаваліся ўплывам рускіх, палякаў і ўкраінцаў“ (W. Mondalski. Polesie. 1927).

Заканчваючы гэты гістарычны агляд адносін беларусаў з суседзямі, нельга абысці і Літву. Літоўцы, гледзячы на такую шчодрую раздачу пірага гісторыі з боку беларусаў, таксама адхапілі свой кавалак, так што атрымалася: дзяржава ВКЛ — літоўская, славутыя літоўскія князі — балты па паходжанні. Яны перанялі ў расейскіх гісторыкаў і паспяхова выкарысталі ўжо згаданы намі міф аб заваёве Беларусі літоўцамі. Адзначу, што для любога жыхара цяперашняй Літвы, гэты міф — самая што ні ёсць гераічная гісторыя. У той час, калі нашы дзеці да гэтага часу вывучаюць гісторыю ў школах і інстытутах (нават на гістарычным факультэце) па Абэцэдарскаму — літоўскія дзеці растуць і выхоўвацца ў нацыянальных традыцыях, яны вераць у тое, што маюць вялікую гісторыю і ганарацца ёю. І ніхто ў Літве не паверыць, калі скажаце, што літоўская гісторыя ўкрадзена ў суседняй дзяржавы — Беларусі. Гэтая гістарычная няпраўда грае вельмі адмоўную ролю сярод вялізнай масы простых беларусаў і, відавочна, зрабіла свой уклад у тэорыю „талерантнасці“ беларусаў.

Як бачым, усе тры крыніцы фармавання гісторыі беларусаў спрыялі стварэнню ілжывай канцэпцыі нашага мінулага і пры маўклівай згодзе з гэтай канцэпцыяй насельніцтва Беларусі далі нагоду залічыць беларусаў да „цярплівай, талерантнай“ нацыі. Прычым, далей — больш, уяўленні аб талерантнасці беларусаў зараз сягаюць у глыбіню вякоў і, быццам бы там, знаходзяцца неабвержныя доказы гэтай талерантнасці.

А ці так гэта? Паглядзім на з'яву талерантнасці больш уважліва і крытычна, чым гэта падаецца афіцыйна.

*(працяг будзе)*

**АНАТОЛЬ АСТАПЕНКА**
**Менск**




**Открытое письмо „comrade“ Латышонку!**

**Уважаемый Олег!**

Я не знаком с Вами. И поэтому удивление граничащее с брезгливостью вызвала Ваша статья „Пан прафсаюзнік і прафсаюзнік-мужык“ в „Ніве“ н-р 28 за 10.07.94 г. Всё в этом „произведении“ насквозь лживо и направлено на то, чтобы вызвать скандал, поссорить белорусов и поляков. Этот „стиль“ мне напоминая наш — „коммуно-советский“, который процветает в Беларуси в правительственной прессе. Когда не имея аргументов и фактов, подгоняют под нужный результат свои домыслы и переходят на личности.

Итак, каковы Ваши „факты“. Вы сразу пишете, что я „... не знайшоў дарогі ў „Ніву“. Но ещё в прошлом году, когда в первый раз благодаря „Солидарности“ мы привезли на оздоровление детей в Польшу из Могилевской области (а это Чернобыльская зона), первое, что я сделал это посетил редакцию „Нівы“, где рассказал о ситуации у нас в стране, ответил на все вопросы сотрудников редакции и пригласил приехать кто пожелает в гости, где отдыхали наши дети. Напрасно мы ждали — никто из „Нівы“ не приехал. Зато были журналисты из многих польских газет и радио. Уже тогда меня насторожило, что журналисты „Нівы“ говорили мне о том, что „какая плохая „Солидарность“, и зачем нужен Свободный профсоюз Беларуси, если есть старый коммунистический профсоюз. Спрашивается, как я мог после этого искать встреч с „Нівой“ — незванный гость — хуже татарина. Кстати, у меня сложились нормальные отношения с Белостокскими белорусами, которых я знаю. Например, с Яном Сычевским из Белорусского общественно культурно-просветительного товарищества, многими простыми белорусами. Иначе и быть не могло. Но судя по всему — Вам, пан Латышонок, это не нравится. По-видимому, Вам по душе втянуть меня в ненужные политические игры да ещё в таком деликатном деле, как межнациональные взаимоотношения. Иначе просто ничего логически не объяснишь.

Вы правы, когда говорите, что „... старшыня (то есть я) змагаецца за свабоду і дэмакратыю селектыўна...“, но не тогда когда выгодно лично мне, а когда не входит в противоречие с интересами моих членов профсоюза, которых я представляю. При этом, защищая своих членов, я не в коем случае не могу вмешиваться во внутренние дела чужой страны.

Если бы Ваша, Олег, фальшивка была опубликована у нас на Беларуси, то я безусловно бы обратился в суд с иском о защите чести и достоинства. Уверен, что несмотря на „справедливость“ нашего советского суда он иск удовлетворил бы. Не могу понять, как, не зная человека, его фактических дел и планов, можно говорить, что „... справа... ў грошах“, которые к тому же даже не „Солидарности“, а американского профсоюза AFL-CIO. Правда и факты заключаются в том, что мы действительно много сотрудничаем со своими коллегами из „Солидарности“. Многому у них учимся в нелегкой профсоюзной работе. В прошлом и в этом году, благодаря большой организаторской работе представителей „Солидарности“, большая группа белорусских детей (а это дети несчастные, так как около 95% из них в Могилевском регионе больные — это результат Чернобыля) поправят своё здоровье в Польше. И средства на это дают спонсоры, в том числе и польская православная церковь (огромное спасибо за это архиепископу Владыке Савве!). Американскими деньгами здесь и не пахнет, хотя, если бы такая помочь поступила от американских коллег, то мы бы её с благодарностью приняли, потому, что ситуация такова, что нужно спасать наших детей, которых затронула Чернобыльская радиация и большая химия. Что касается Ваших разглагольствований о моих якобы поклонах пану и эконому, то пусть это останется на совести автора статьи: Каждый думает в меру своей воспитанности.

Good bye, spadar Łatyszonak!

P.S. Прошу прощения за русский текст, но в наше давнее время меня белорусскому языку не обучали. Советы всё сделали, чтобы народ забыл свою культуру, происхождение и Отчизну...

**Старшыня Магілеўскай**
**Абласной Рэгіянальнай**
**Арганізацыі Свабоднага**
**Прафсаюза Беларусі**
**С. В. Абадоўскі**

* * *

**Паважаны Спадар Абадоўскі!**

Спярша хачу прасіць Вашага прабачэння за сцвярджэнне, што быццам бы Вы дарогу ў „Ніву“ не ведаеце. На жаль, ніхто з маіх рэдакцыйных сяброў пра Ваш візіт мне не ўспомніў. З кім Вы гаварылі і хто Вам сказаў, што свабодныя прафсаюзы ў Беларусі не патрэбныя — не ведаю, як не ведае ніхто ў рэдакцыі.

Таксама слушна Вы заўважылі, што мой артыкул напісаны ў „камуна-савецкім стылі“. Я проста палічыў яго найбольш адпаведным да склаўшайся сітуацыі, бо каторы ўжо раз я заўважыў, як вельмі тое, за што некалі я змагаўся, напамінае мінулую эпоху.

Пішу, што змагаўся, бо якраз за падпольную дзейнасць у свабодным прафсаюзе „Салідарнасць“ я адседзеў восем месяцаў у турме пры генерале Ярузельскім. Тады ў самым чорным сне не мог я прадбачыць, што праз некалькі гадоў старшыня беластоцкай „Салідарнасці“ будзе крычаць на мітынгу, што на яго сядзібу напала дружына баевікоў з беларускай газеты „Ніва“ і, як доказ на тое, будзе насіць па вуліцах Беластока запэцканыя чырвонай фарбай транспарант (які, дарэчы, абліў гэтай фарбай яго супрацоўнік). Калі гэта не самая сапраўдная правакацыя нацыянальнай варажнечы між палякамі і беларусамі, дык што гэта?

Тут набліжаемся да прынцыпаў. Я ж не напісаў, што кепска робіце, возячы магілёўскіх дзяцей на аздараўленне ў Беласточчыну. Нават пра амерыканскія грошы мусіць ясна напісаць, што ўзяла іх „Салідарнасць“, а не Вы.

Я проста ўпэўнены, што нага спадара Мазалеўскага (чаго б я пра яго не думаў) не ступіла б у сядзібу Свабоднага прафсаюза Беларусі, скажам у Гродне, калі б падобная сумятня ўзнікла паміж тамашнім Свабодным прафсаюзам, а рэдакцыяй польскай газеты „Głos znad Niemna“. І гэта не было б ніякім „ўмешваннем ва ўнутраныя справы чужой дзяржавы“. Дзякуй Богу, маем свабоду: хочаш — заходзіш, не хочаш — не заходзіш.

Але гэта, як я ўжо сказаў, справа прынцыпаў, а тыя, як Вы заўважылі, залежаць ад выхавання. Мой беларускі патрыятызм польскага гадавання і пэўна таму ён адрозніваецца ад Вашага. Вось пішаце, што Вас беларускай мове не вучылі. Мяне таксама ніхто тут не вучыў. Сам яе вывучыў, у Кракаве, ад пачуцця сораму перад сваімі польскімі сябрамі, якім цяжка было зразумець, што нехта можа сваёй мовы не ведаць.

Жадаю поспехаў у прафсаюзнай дзейнасці, бо я ўжо стаміўся.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# ЭКЗАМЕНЫ Ў ГАЙНАЎЦЫ

Уступныя экзамены ў сярэднія школы ў гэтым годзе нельга назваць лёгкімі. У сераду, 29 чэрвеня г.г. Радыё-Беласток прысвяціла ім некалькі перадач, асабліва надта складаным задачам па матэматыцы, якія падрыхтавала Кураторыя асветы. Сведчаць аб гэтым перш за ўсё экзаменацыйныя вынікі.

У трох сярэдніх школах у Гайнаўцы экзамены здавалі 419 вучняў і аж 128 (30,5%) атрымалі дрэнныя адзнакі па матэматыцы. Лепшыя ацэнкі былі на экзаменах па польскай мове, бо толькі 53 вучняў (12%) пацярпелі няўдачу.

А як праходзілі экзамены ў паасобных школах?

У Агульнаадукацыйным ліцэі н-р 1 пажадалі вучыцца 129 выпускнікоў. З гэтага ліку на экзаменах па польскай мове пагарэлі 15 вучняў, а па матэматыцы — 27. Адна асоба пісьмовую працу па польскай мове напісала на выдатна, а па матэматыцы былі толькі дзве добрыя адзнакі.

У Агульнаадукацыйным ліцэі н-р 2 з беларускай мовай навучання на экзамены прыйшлі 136 дзяўчат і хлопцаў. Дрэнныя вынікі па польскай мове атрымалі 24 асобы, а па матэматыцы — 32. Пяць пісьмовых прац па польскай мове былі ацэнены на выдатна, а па матэматыцы толькі адна праца здабыла добрую адзнаку.

У I клас Механічнага тэхнікума меціла 69 асоб, але 26 з іх праваліліся на экзаменах па матэматыцы. З таго прадмета дзве пісьмовыя працы атрымалі добрыя адзнакі. Па польскай мове не было дрэнных ацэнак, затое пяць добрых адзнак.

За права стаць вучнем Дрэваапрацоўчага тэхнікума змагаліся 85 выпускнікоў. Экзаменаў па польскай мове не вытрымалі 14 чалавек, а па матэматыцы — 43. Было 14 выдатнікаў па польскай мове, але ўжо па матэматыцы не было ніводнай ні выдатнай, ні добрай адзнакі, а толькі дзве пасрэдныя.

Экзамены здавалі таксама выпускнікі прафесіянальных школ. У Механічны тэхнікум здавалі 52 асобы, з ліку якіх 19 атрымалі дрэнныя ацэнкі па польскай мове і 21 — па матэматыцы. З ліку ахвотных вучыцца ў Дрэваапрацоўчым тэхнікуме былі толькі дзве дрэнныя адзнакі па польскай мове і пяць — па матэматыцы.

Кожны, хто пагарэў на адным прадмеце, мае шанц выправіць адзнаку на паправачным экзамене.

Мяне асабіста цікавіў лёс маіх выхаванцаў — выпускнікоў Пачатковай школы ў Дубічах-Царкоўных. Вучыцца ў сярэдніх школах пажадалі 12 вучняў і з гэтага ліку 8 асоб здавалі ў школы ў Гайнаўцы. Пяць маіх вучняў экзамены вытрымалі, двух — праваліліся на пісьмовых экзаменах па матэматыцы, а адзін — па абодвух прадметах. Сярэднія ацэнкі цэлай васьмёркі прадстаўляюцца наступным чынам: 3,4 па польскай мове і 1,6 па матэматыцы. Вынік атрымаўся пасрэдны.

Ацэнкі маіх выхаванцаў не адлюстроўваюць ведаў, якія атрымалі яны ў нашай школе. Пацвярджаюць гэта меркаванні вопытных педагогаў, што ўступныя экзамены не з'яўляюцца паказчыкам вартасці вучня. Бывае так, што выдатнікі правальваюцца на экзаменах і наадварот, пасрэдныя вучні пішуць добрыя работы. Гэта для выпускнікоў першае сур'ёзнае жыццёвае выпрабаванне і многія не вытрымоўваюць псіхічнага напружання. Сёлета вучням не спрыяла і надта жаркае надвор'е, якое мела адмоўны ўплыў на іх псіхічны і фізічны стан.

Станоўчую ініцыятыву праявіла Педагічная бібліятэка ў Гайнаўцы, якая на тры тыдні да экзаменаў наладзіла сустрэчу высьмікласнікаў з настаўнікамі польскай мовы і матэматыкі з ліцэя н-р 1 і з псіхолагам з Выхаваўча-прафесійнай кансультацыі. У ходзе сустрэчы вучні маглі даведацца як сябе весці на экзаменах і як псіхічна падрыхтавацца да гэтай падзеі ды маглі ставіць ім пытанні.

Ад такіх сустрэч будзе мала карысці, калі Кураторыя падрыхтуе пытанні не пад сілу вучням, як гэта здарылася сёлета на экзаменах па матэматыцы. Гэта спараджае стрэс і непатрэбныя трагедыі. Я сам бачыў заплаканыя твары маладых людзей, якія пакідалі сцены школы пасля экзаменаў. Кураторыя павінна зрабіць з гэтага адпаведныя высновы. А можа, як у нас гавораць, у „гэтым шаленстве ёсць свой метад"? Хацелася б пажадаць, каб у наступным годзе было папросту разумней.

**СЛАВАМІР КУЛІК**

# ЯКОЕ МЕСЦА НА КАРЦЕ НАШАЙ АЙЧЫНЫ, ПОЛЬШЧЫ НАЙБОЛЬШ МНЕ МІЛАЕ І ДАРАГОЕ? ЧАМУ?

*(фрагменты вучнёўскіх прац; заканчэнне)*

Кожны чалавек мае свае любімыя месцы, якія спалучаюцца з прыемнымі ўспамінамі, з людзьмі, якія былі для нас важнымі, з цудоўнымі мясцінамі, з незвычайнымі прыгодамі, але яны не ўпадаюць глыбока ў нашу памяць.

Ёсць іншае вельмі важнае для кожнага чалавека месца, аб якім мы заўсёды ўспамінаем з вялікай чуллівасцю, якое заўсёды парушае ў нашай душы струны сантыменту, прыемнасці, тугі па чымсьці, што цяжка нам назваць, а што, мы адчуваем, што існуе ў нашай душы. Гэтым цудоўным месцам з'яўляецца наша Радзіма, аб якой вельмі прыгожа гаворыць Віктар Шведу вершы „Беласточчына":

*Беласточчына, зямелька родная,*
*Жывеш заўжды ты у глыбі маіх грудзей,*
*Мясціны не сустрэў ў жыцці ніводнае,*
*Якая б мне была хоць крыху даражэй.*

Бо ці ж можна забыцца аб глыбокай глушы Белавежскай пушчы, поўнай зялёнай таямнічасці, нязнаных нам, малым, звяроў, дзіўных шумаў, пахаў? Гэта яна ўзбуджала ў нас фантазію, вабіла нас да сябе і адначасова палохала.

Або аб вузенькай рэчцы Лясной, якая, праўда, цяпер непрыемна пахне, але выклікае як жа сімпатычныя ўспамінкі. Я не раз упала ў яе, рылася ў балоце шукаючы слімаковых ракавінак, а зімою, катаючыся на каньках, пакупалася ў халоднай вадзе.

Ці не выклікаюць сентыментальнай усмешкі ўспамінкі святкавання Каляд? Вось бачу, як я змучаная, але радасная, няўмела яшчэ прыбіраю ёлку. Уваходзіць мой тата пераадзеты за Дзеда Мароза з доўгай белай барадою. Ён дае мне, шырока развіўшай рот, вялікую торбу поўную ласункаў і іншых падарункаў. Нашы перажыванні, калі мы першы раз селі за парту, калі не маглі злезці з дрэва або першы раз закахаліся. Гэтыя перажыванні, месцы, людзі, здарэнні безапеляцыйна звязаны з маёй Радзімай — наваколлем Гайнаўкі, распалажаным на ўскраіне Белавежскай пушчы.

Белавежская пушча — гэта самая вялікая гордасць майго рэгіёна. Я думаю, варта ўдумацца над пытаннем паэта, змешчаным у вершы „Белавежа": *Харастве такое, дзе яшчэ сустрэнеш?*

Бо хто не чуў аб велічных лясах, аб магутным зубры? У Белавежу едуць людзі з усіх бакоў свету, каб убачыць на свае вочы цудоўны сваёй дзікай, непадстрыжанай буйнасцю свет, бо і сапраўды тут усё яшчэ адбываецца па законах прыроды. Сярод непралазных ветравалаў, пад расшчэпленымі маланкай волатамі, у дуплах, у зарасніках, каля лясных крыніц адбываюцца галоўныя таінствы — сюды імкнуцца зубрыхі нараджаць сваіх дзяцей, вепры, ласі. Тут адлежваюцца казулі і алені, дрэмлюць да змроку рысі. Адсюль чуецца вохканне соў. Каля дуплаватых ствалоў рояцца пчолы, уюцца восы і шэршні. Часам, напаўняючы цішыню ўдарамі крылаў, узлятае рэдкая птушка — глушэц. Паміж дрэвамі двухсотгадовага ўзросту, на светлых прагалінах, на палянах, берагах рачулак цягнуцца да сонца кветкі і травы. Многія з іх поўнасцю ахоўваюцца і занесены ў Чырвоную кнігу. Праз пушчу праплывае рэчка Нараўка, усё больш зарослая, непраходная.

Бурнасць прыроды супакойвае, чыніць чалавека павольным і разважлівым. Спакой, лад, радасць жыцця. Як жа моцна патрэбныя яны цяперашняму чалавеку. І ўсё гэта мы маем так блізка, а часта шукаем таго ў далёкіх старонках, у іншых краінах. Чалавек не заўсёды ўмее правільна ацаніць рэчы, якія існуюць побач яго. Я ўпэўнена, што многа маіх сяброў ніколі не бачыла карцін беларускіх мастакоў у гайнаўскім музеі, не ведае, што гайнаўская царква — адна з большых у свеце, не была на фестывалі царкоўнай музыкі, у якім прымаюць удзел хоры з усяго свету. Гэта сумная праўда, але, як гаворыць А. Барскі ў вершы „Вяртанне":

*Ды справа у тым, каб мы голас Радзімы*
*З душы не прагналі ніколі. Ніколі!*

Кожны павінен старацца дацаніць сваю культуру, каштоўнасці зямлі, на якой жылі яго бацькі і бацькі яго бацькоў. Я асабіста ганаруся тым, што я нарадзілася ў такім цудоўным месцы і вельмі цешуся, калі магу расказаць аб ім іншым людзям.

Да друку падрыхтаваў
**ВАСІЛЬ САКОЎСКІ**



# СУТЫЧКІ З ПРЫГОЖЫМ СЛОВАМ

Думка наладжваць штогадовыя сустрэчы маладых людзей, якія вучацца лясніцтву і пры гэтым цікавяцца дэкламацыяй, бардаўскай песняй ці літаратурнай творчасцю, нарадзілася ў галаве мгр Альжбеты Ляпрус, настаўніцы польскай мовы ў Лясным тэхнікуме ў Белавежы некалькі гадоў таму. Мерапрыемства, названае Агульнапольскім турнірам дэкламатарскага і тэатральнага мастацтваў „Чалавек і прырода", спадабалася ўсім — і школьнай моладзі, і настаўнікам, і працаўнікам культуры. Ім дужа зацікаўлены таксама рэгіянальныя сродкі масавай інфармацыі, асабліва радыё.

Першы выпуск турніра адбыўся ў мінулым годзе. Удзел у ім прыняло 40 вучняў з сямі школ лясного накірунку і чатырох ліцэяў з Беласточчыны. Другі, сёлетні выпуск (5—7 чэрвеня г.г.) сцягнуў вучняў адных толькі лясных школ (гэтага прынцыпу арганізатары будуць прытрымоўвацца, мабыць, і ў будучыні). Да турнірных сутычак прыступіла 19 дэкламатараў і 6 выканаўцаў бардаўскай песні з Белавежы, Брынка, Яленяй Гуры, Мілiча, Руцянага-Ніды, Жэпіна, Тухолі і Туловіц.

У галіне дэкламацыі I месца і галоўны прыз журы прысвоіла Малгажаце Дабжыцкай з Тухолі. Яна атрымала фотаапарат „Кодак" (узнагарода ўстаноўлена патронам мерапрыемства, Генеральным дырэктарам Дзяржаўных лясоў у Варшаве), а таксама вельмі цікавы барэльеф на лясную тэму, выкананы (і ўстаноўлены, як узнагарода) белавежскай скульптаркай Мар'яй Смактуновіч. Два раўназначныя II месцы занялі Рафал Карчмарэвіч і Іаланта Пэрыт. Таксама двума раўназначнымі III месцамі падзяліліся Іаланта Дэн і Анна Рабчук (усе чатыры вучні з Белавежы). Вылучэнні атрымалі пяцёх удзельнікаў турніра.

У галіне бардаўскай песні найвышэй ацэнены Кшыштаф Берця з белавежскай школы. Вылучэнні атрымалі два вучні.

Другому выпуску турніра спадарожнічаў таксама літаратурны конкурс на малыя формы па тэмах экалогія і прыродазнаўства, якія адшукваюць сэнс існавання. Журы I ўзнагароду прысвоіла Рафалу Віткоўскаму, II — Іаланце Пэрыт, III — Станіславу Хіму — усе яны вучні белавежскага тэхнікума. Былі таксама чатыры раўназначныя вылучэнні.

Апрача прыгожых альбомаў, трох першых лаўрэатаў літаратурнага конкурсу і іх апякунка (А. Ляпрус) атрымалі запрашэнні на бясплатную пабыўку ў Асяродку лясной культуры ў Галухове. Асяродак апрача таго гарантуе надрукаванне ўзнагароджаных твораў у каталогу выстаўкі Агульнапольскага агляду творчасці леснікоў, які адбудзецца на пераломе мая—чэрвеня 1995 г.

Удзельнікі конкурсу будуць мець і такую сатысфакцыю, што іх творы знойдуцца ў аказіянальным зборніку, які пабачыць свет ужо ў верасні г.г. Томік гэты будзе праілюстраваны камп'ютэрнай графікай лаўрэатаў аддзельнага конкурсу, наладжанага пры нагодзе асноўнага мерапрыемства настаўніцай мгр Аннай Кульбацкай.

Варта яшчэ дабавіць, што паўгадзінная радыёперадача, у якой чыталіся ўзнагароджаныя творы, прагучэла 12 чэрвеня г.г. па Беластоцкім радыё.

Сёлетняму турніру спадарожнічала шмат культурных мерапрыемстваў. Ужо на яго адкрыцці выступіла славутая польская спявачка Эдыта Геперт. На жаль, з-за дрэннага самаадчування, не мог прыехаць на запланаваную сустрэчу паэт — ксёндз Ян Твардоўскі. У гэтым месцы адбылася вечарына, прысвечана тварцу ў расе; яго асобу і творчасць прадставіў літаратурны крытык Вальдэмар Смашч. Аўтарскую сустрэчу наладзіў таксама паэт і беластоцкі радыёжурналіст Веслаў Шыманскі, аўтар толькі што выдадзенага зборніка „Witraż wileński".

Удзельнікі і госці белавежскай сустрэчы мелі таксама магчымасць пагладзець спектакль п.з. „... падшыты" у цудоўным выкананні Барташа Зачыкевіча з Варшавы. Ён таксама вёў заняткі для дэкламатараў. У сваю чаргу заняткі з выканаўцамі бардаўскай песні меў музык з Беластока, Кшыштаф Дзерма. Той, хто хацеў, наведаў Белавежскую геабатанічную станцыю Варшаўскага універсітэта, па якой вадзіла праф. Хрысціна Фалінская, ці пагладзеў выстаўку здымкаў на тэму дрэў Белавежскай пушчы, якіх аўтарам з'яўляецца Анджэй Кэчынскі. На заканчэнне турніра з канцэртам выступіў аркестр Лясных школ у Тухолі.

Цэлае мерапрыемсва прайшло вельмі ўдала. Яго арганізатар, Лясны тэхнікум у Белавежы, другі раз даказаў, што яму пад сілу справіцца з такой задачай. Дасканала адрэкамендавалі сябе і вучні белавежскага тэхнікума, здабываючы большасць месцаў у паасобных галінах турніра. Трэба толькі пажадаць, каб белавежскае мерапрыемства дало штуршок педагогам з іншых лясных школ да большага ўкладу працы з моладдзю на ніве прыгожага слова.

**ПЁТР БАЙКО**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Вершы Віктара Шведа

**МАРЫ**

Спыталі вучня ў акулярах:
— Скажы, якія твае мары?
Вучань ім адказаў на гэта:
— Хацеў бы стаць я... Шараметам.

— Гэта, відаць, нейкі мужчына,
Што марыш быць ім безупынна?
Адказ пачулі ад Ігната:
— Гэта начальнік майго таты!

**НЕ ТРЭБА НАСОЎКІ**

Сягоння ў Адама
У тэатр вандроўка.
Дае яму мама
Чыстую насоўку.

— Не турбуйся, мама,
Мною анікольні.
У тэатры ж не драма,
Камедыя толькі!

**БЫЦЦАМ У ЗААПАРКУ**

— Гляджу я на неба, Макарка,
Быццам знайшоўся ў заапарку.
Вось прозвішча тваё — Алень.
Як цюцька бегаеш штодзень,

Жывеш на вуліцы Звярынай.
Хактар у цябе лісіны.
Твой нос — як дзюба нейкай сойкі,
А на мяне глядзіш ты воўкам!



*Разумнікі з Рыбалаў.* Фота Г. Кандрацюк

Грыбніку

## КАБ ЛЕС СТАЎ БАГАЦЕЙШЫМ

Не сакрэт, што з кожным годам грыбныя запасы нашых лясоў скарачаюцца. Тут і ўздзеянне хіміі, і неймаверная колькасць ахвотнікаў, што дабіраюцца нават на самыя запаветныя паляны. З жалем адзначаеш, што там, дзе некалькі гадоў раслі баравікі, сёння няма ніводнага. Сапраўдны грыбнік павінен мець свае запаветныя месцы і, зразумела, клапаціцца, каб яны штогод радавалі грыбным ураджаем, павінен размнажаць грыбы сам.

Перш за ўсё неабходна знайсці стары пераспелы грыб, але ён не павінен быць чарвівым. Уважліва прыглядзьцеся, на якой глебе ён расце, пад якім дрэвам і г.д. Потым знайдзіце падобны ўчастак лесу і там закладвайце сваю плантацыю.

Найбольш просты спосаб пасадкі грыбоў: злёгку прамачыце зямлю пад дрэвамі, раскладзіце кавалачкі шапачкі грыба спорамі ўніз. Праз тры-чатыры дні шапачкі прыбярыце і крыху папырскайце месца пасадкі вадою, але не палівайце. Квалі надвор'е стаіць сухое, перыядычна паўтарайце гэтую аперацыю. На наступны год ці пазней вы здолееце сабраць тут першы ўраджай.

Можна зрабіць і так. У здаровых баравікоў аддзяліце ніжні трубчасты слой шапачкі. Разламіце яго на невялікія кавалачкі і падсушыце ў цені, зрэдку перамешваючы. Саджаць трэба ў сухое надвор'е ў месцы, аналагічным месцу збору. Вузкай драўлянай лапаткай разрэжце дзёран і падніміце з аднаго боку. У „кішэньку" пакладзіце неглыбока, на два сантыметры, два-тры кавалачкі насення. Апусціце дзёран на месца і злёгку прытапчыце. Такія пасадкі догляду не патрабуюць. І як прыемна будзе на толькі вам вядомым месцы пад кожным дрэвам знайсці сям'ю моцных баравікоў!

З гісторыі Беларусі

## ПОЛАЦКАЕ ВАЯВОДСТВА

Як сведчаць летапісы, у 1307 годзе Полацкая зямля, што была калыскаю нашае дзяржаўнасці, мірна ўвайшла ў склад новай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага. Полацак захаваў вялікую самастойнасць, якую літоўскія гаспадары шмат разоў падкрэслівалі пісьмовымі абяцаннямі „не рухаць старыны, не ўводзіць навіны".

На знак прызнання яе асобага становішча крывіцкая зямля мела сваіх князёў, якія звычайна даводзіліся блізкімі сваякамі самім гаспадарам (так называлі вялікіх князёў літоўскіх). Прыязджаючы на княжанне ў Полацак, усе князі-летувісы мянялі веру на праваслаўе. Калі Ягайлаў брат Скіргайла адступіў ад завядзёнкі і застаўся паганцам, полацкія месцічы прывязалі князя задам наперад да старой клячы і выгналі з горада.

Апошнім полацкім князем быў Андрэй, найстарэйшы з дванаццаці сыноў гаспадара Альгерда, таленавіты военачальнік, што камандаваў правым крылом славянскіх войскаў у Кулікоўскай бітве. Пасля яго полацкай зямлёй кіравалі ўжо вялікакняжацкія намеснікі.

У 1504 годзе на абшары колішняга княства ствараецца Полацкае ваяводства, найбольшымі гарадамі і мястэчкамі якога былі Дрыса, Дзісна, Ула, Асвея, Себеж, Ушачы, Бешанковічы, Лепель, Кублічы, Ветрына, Чашнікі, Лукомль і Глыбокае. У Полацку, што доўгі час заставаўся найбуйнейшым горадам Вялікага княства, скліваліся ваяводскія соймы, падчас вайны сюды збіраліся з паветаў войска і рушэнне (апалчэнне). Першым полацкім ваяводам быў Станіслаў Глябовіч. У сярэдзіне XVI стагоддзя ваяводства мела пурпуровы сцяг з Пагоняй на белым полі.

У выніку першага падзелу фэдэратыўнай Рэчы Паспалітай у 1772 годзе правабярэжная частка ваяводства была акупаваная царскімі войскамі і далучана да Расейскай імперыі. У гэты час сталіцай Полацкага ваяводства, што захавалася на левабярэжжы Дзвіны, сталі Ушачы, а затым Чашнікі. Расея не пакідала сваіх захопніцкіх планаў, і ў 1793 годзе адбыўся другі падзел Рэчы Паспалітай. Апошні полацкі ваявода Тадэвуш Жаба развітаўся са сваёй пасадаю: здабычаю двухгаловага арла стала і левабярэжная частка ваяводства.

**УЛАДЗІМІР АРЛОЎ**

## ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

7

**ЦЁЦЯРУК ЦІ ДЗЯДЗЯРУК?**

— А давай паклічам Дзіка на вячэру, — знайшоўся хлопчык. — І я пастаўлю перад ім на падлозе сваю манную кашу.

Лявон не звярнуў ніякай увагі на пярэчанне.

— Сабака названы зусім справядліва. Клічце яго поўным імем: Дзік Львінае Сэрца. Як у Вальтэра Скота.

— Чакай, дык там жа быў Рычард?

— Так. Англічане скарачаюць Рычард на Дзік.

— Нешта ты стаў красамоўны, Лявон, — пасміхнулася Наташа. — Сам жа нядаўна паўтараў прымаўку: „Скажаш — марна масла змажаш, змоўчыш — срэбра горшчык зважыш".

Лявон паблажліва зірнуў убок:

— З кожнага правіла бываюць выключэнні. Сёння выпадак выключны.

Спрачацца не выпадала, выпадак сапраўды быў з тых, што здараюцца не кожны дзень. Да таго ж нас слухаў Алік, для каго Лявон з'яўляўся першым і неаспрэчным суддзёю, тым больш, што ён сапраўды навучыў малога чытаць.

З год назад, яшчэ будучы непісьменным, Алік прыцягнуў да нас„Лясную газету" Біянкі. Сеў каля мяне на канапе і выказаў нецярплівы намер падзяліцца найцікавейшымі весткамі з гэтай кніжкі. Хлопчык не зважаў нават на Дзіка, які стаяў поруч з ім і павільваў хвастом, паддобрываўся: ану і ўдасца выпрасіцца на вуліцу.

Напакаваны ад вушэй да пят здабытымі навінамі, Алік гартаў старонкі, упіраючы пальцам на малюнкі.

— А ведаеце, хто гэта? — ён называў звера або птушку і слова ў слова пераказваў змешчаны пад ілюстрацыямі змест. Справа растлумачвалася даволі проста: старэйшыя дзеці чыталі ўголас, а ён уважліва слухаў. Дзівіла толькі, як можна было запомніць усё ад вокладкі да вокладкі ў такім даволі таўставатым томіку.

Тым часам Алікаў палец уз'ехаў на новы малюнак.

— А гэта — цецярук!

Хлопец пачаў выкладаць, дзе жыве, чым жывіцца, як выглядае птушка, — слова ў слова па друкаваным.

— А па-мойму, гэта не цёцярук, — я знарок перайначыў слова, — а дзядзярук.

Малы ўстрывожыўся.

— Не, я добра ведаю: цецярук...

Выкарыстаўшы яго збянтэжанне, я пачаў выдумляць:

— Дзядзя, таму што вялікі, а рук, бо мае на кожнай лапе па пяць пальцаў і хапае імі ўсё, як мы рукамі...

Тварык у Аліка пасур'ёзнеў.

— Пайду. Спытаю ў Лявона...

Распытванне відавочна зацягвалася, Алік прыйшоў пасля паўдня назаўтра і не адзін, а з братам, відаць, чакаў, калі той вернецца са школы.

Мне было катэгарычна абвешчана:

— Вы жартуеце, а Лявон тое самае кажа, што і я. О, глядзіце. — Алік разгарнуў кнігу на патрэбнай старонцы. — Чытайце, як тут напісана. Лепш я сам прачытаю, я ўжо амаль усе літары ведаю. Ніякіх „дзядзярукаў" няма і быць не можа.

Пакуль Алік выкладаў свае неабверджаныя доказы, Дзік упраўйся з поліўкай і ўсёй паставай паказваў, што зараз самы раз пайсці на праходку, у бок лесу, дзе можна паскакаць, пагаўкаць, а то і выпужаць дурную птушку з травы.

І мы пайшлі. Кожны з нас адчуваў сябе шчаслівым. Дзік праз тое, што бяжыць наперадзе трох прыемных яму асоб і ахоўвае іх, Алік і Лявон — таму, што іх суправаджае такі прыгожы сабака, і ўсе сустрэчныя, напэўна, зайздросцяць ім, мяркуючы, быццам яны — гаспадары гэтага вялікага пса-прыгажуна.

А я? Чаму я пачуваўся шчаслівым, забылася. Хутчэй за ўсё таму, што маім малым сябрам хораша і светла на белым свеце.

*(працяг у наступным нумары)*

**МАКСІМ ЛУЖАНІН**

## ЛАГАГРЫФ



1. прылада, у якой намагнічаная стрэлка паказвае паўночны напрамак, 2. куе жалеза, 3. павага, якой карыстаецца агульнашанаваная асоба, 4. расліна на грэцкую кашу, 5. карабель, на якім Ной ратаваўся з сям'ёй і жывёламі ад патопу, 6. імя Чукоўскага, аўтара многіх вершаў для дзяцей, м.інш. „Доктара Айбаліць".

Вылучаныя літары складуць назву адмоўнага персанажа з беларускіх народных казак.




*Кася Сегень з бельскай „тройкі".*
**Фота М. Ваўранюка**

## БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ АНЕКДОТЫ

Хлопчык пайшоў у магазін і падае прадаўцу бітончык:
— Мама прасіла, каб вы адпусцілі поўную пасудзіну малака.
— Які разумны хлопчык, памагае маме, — хваліць прадавец. — Вось табе малако. Мама, відаць, дала табе і грошы на малако?
— Дала, я паклаў іх на дно бітончыка, каб іх не згубіць.

* * *

— Ведаеш, бабуля, некаторыя вучоныя даводзяць, што сонца патухне праз 80 мільярдаў год...
— Як ты сказаў, праз колькі?..
— Праз восемдзесят мільярдаў.
— Ах ты, блазнюк, як напужаў! Мне здалося, што праз восем мільёнаў...

* * *

— Паважаны грамадзянін, ваш сабака ўкраў у мяне цэлы кілаграм мяса.
— Дзякуй, што вы мне гэта паведамілі. Сёння я не дам яму есці.

### КАЛІ ПАЧАЎ ХЛУСІЦЬ?

— Я, як быў у тваім узросце, так не хлусіў, — павучае дзядуля Янку.
— А калі ты гэта пачаў, дзедку?

### ЦІКАЎНЫ

Маці кажа сыну:
— Сынок, табе ўжо пайшоў трэці годзік...
— А куды ён пайшоў?

### СУЦЕШЫЎ

— Што вы, татка, такі хмуры? — спытаў у бацькі першакласнік Янка.
— Справы на рабоце расклейваюцца, сынку.
— Невялікая бяда, я сёння прынёс бутэлечку клею.

## БЕЛАШЧОКАЯ РАЗУМНІЦА

Зіма ў гэтым годзе прыйшла даволі рана. Ужо ў сярэдзіне лістапада ўдарылі маразы і густа паваліў снег. Снег заносіў дарогу, асядаў гурбамі ля плотаў і хат.

„Тое, што многа снегу — не бяда, — думаў я, гледзячы праз акно на старыя, па калена ў снезе яблыні. — Многа снегу ў полі — поўна хлеба ў засеках. Толькі вось як перанесці такую зіму птушкам, якія засталіся зімаваць?"

Не паспеў так падумаць, як у шыбу нехта лёгенька пастукаў. Падышоў і бачу: каля самага акна на галінцы бэзу сінічка сядзіць. Галоўка чорненькая, як сажай пафарбаваная, шчокі беленькія, спінка жаўтавазялёная, а крыльцы шараватазялёныя са светлай палоскай. Глядзіць на мяне і не міргне.

— Ага, есці хочаш. Ну, пачакай крыху. Ёсць у мяне для цябе ласуначак адзін.

Кожны дзень у кармушку, якую я павесіў на ябыні, насыпаў сланечнікавых семак. Хутка семкі скончыліся, і я рашыў пачаставаць сінічку салам. Адрэзаў невялікі кавалак, але ў кармушку не паклаў, а абвязаў моцнай ніткай і павесіў на галінцы яблыні. Сам схаваўся і пачаў назіраць за птушкай.

„Ага, — думаю сабе, — гэта табе не семкі ў кармушцы. Тут, каб салам ласавацца, папрацаваць трэба."

Сінічка падляцела да яблыні, пакружылася каля сала, скокнула на яго, але на нітцы не ўтрымалася і адскочыла ўбок.

— Пінь-пінь-чэржж, пінь-пінь-чэржж, — зазвінеў у садзе яе звонкі прарэзлівы галасок. Зазлавала, пэўна. Села на галінку, на якой ласунак вісеў, сядзіць дый уніз паглядае. Пасядзела так крыху і за работу прынялася. Падцягне дзюбкай нітку і трымае яе лапкамі. Зацягнула так сала на галінку, заціснула яго кіпцюрыкамі і давай кляваць... Пакуль шарэць пачало, на галінцы пад ветрам адна нітка засталася.

Назаўтра раніцою я зноў убачыў у садзе белашчокую разумніцу і, вядома, паспяшаўся аддзячыць ёй за кемлівасць. Вынес сінічцы сала. Паклаў яго цяпер у кармушку.

**ІВАН ГАЛУБОВІЧ**

*БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ*

## ЯШЧАР

Аднаго з дзяцей выбіралі яшчарам. Яшчара садзілі на ўслончыку, на табурэтку або купінку. Дзяўчынкі надзявалі на галаву вянкі з кветак, браліся за рукі з хлопчыкамі і састаўлялі такім чынам круг вакол яшчара. Круг пачынае кружыцца і пець:

Сядзі, сядзі, яшчар.
Ладу-ладу,
Ладу-ладу!*
У арэхавым кусце.
Арэшачкі лушча.
Бяры сабе панну.
Каторую хочаш.
Панну Марыльку.
За белу ручку.
За русую коску.
За малую ножку.
За золат персцень.

Яшчар накідвае хустку на ўказаную ў песні дзяўчынку і пачынае з ёю кружыцца пад песню. Потым дзяўчынка з пацалункам аддае яшчару свой вянок. Тое ж паўтараецца з іншымі дзяўчынкамі. Потым першая дзяўчынка выходзіць у круг, пачынае кланяцца яшчару і пяе з астатнімі:

Пане яшчару, паночак!
Аддай жа мой вяночак!
Зіму-лета хадзіла,
Ручкі-ножкі сцірала,
Па красачцы збірала,
У вяночак звівала.

Яшчар патрабуе выкуп, якім у большасці з'яўляецца пацалунак. Дзяўчынка атрымлівае вянок, танцуе і пяе:

Я свой венчык выпрасіла,
Я свой венчык выплакала,
Я свой венчык выенчыла,
Я свой венчык выплясала.

Такім жа чынам разбіраюць усе вянкі. Потым выбіраюць новага яшчара.

* *паўтараецца пасля кожнага радка.*




*НІНА ГАЛІНОЎСКАЯ*

## ЖАРТЫ

### БЫЎ У САЎНЕ КАМАР

Быў у саўне камар.
Змыў да кропелькі загар.
Запрасіў малечу слон
Загарэць на свой шэзлонг.
— Дзякуй, слон, —
Камар смяецца, —
На дваіх не хопіць месца.

### КОТ-РЫБАК

Асцярожна з-пад варот
Выбег з вудай чорны кот.
— Ты куды? — спытаў бычок.
— На маліны ў сасьнячок.
— Прынясі лясной мне траўкі.
Не парві аб голле плаўкі!

### ПЕВЕНЬ-ДВОРНІК

Певень дворык мяце.
Дзве мятлы на хвасце.
Доўга мёў — не дамёў.
Пачынае ізноў.

### ЗВАНОЧАК ДЛЯ КАТА

Прыбегла мышка
Ў магазін:
— Прадайце
Званочак адзін.
— Навошта?
— На шыю катку,
Каб чуць,
У якім ён кутку.

### ГАРОДНАЕ ПУДЗІЛА

Гароднае пудзіла
Курэй перапудзіла:
Дзве чубаткі —
на ганак,
Тры чубаткі —
пад ганак,
Адна — у сені,
Бабцы на калені,
Певень — пад страху.
Во было страху-у!

### ПАЛІЧЫ

На вярбе паспелі
грушы,
А на ліпе —
жалуды.
Да цябе звярнуцца
мушу:
Палічы хутчэй
плады!

### САРОКА-БЕЛАБОКА

У сарокі-белабокі
Церам востры і высокі.
На стале пяць этажэрак.
Ї на кожнай з іх — куфэрак.
У куфэрачках таршчоткі
Ёсць навіны, ёсць і плёткі.
Ї разносіць іх сарока
Недалёка і далёка.

### ВОСЕНЬСКІ МАСКАРАД

Сёння я каля паркана
Бачыў дзіва-велікана:
Вопратка лісцёвая,
Жоўтая, барвовая.
— Хто тут? Што за маскарад?
Кажа:
— Месяц лістапад.
Апрануў я цэлы воз
Лісця з клёнаў і бяроз.

*ПЯТРО ВАСЮЧЭНКА (Менск)*

# ТВОРЧАСЦЬ САКРАТА ЯНОВІЧА Ў КАНТЭКСЦЕ БЕЛАРУСКАЙ НАВЕЛІСТЫКІ

Узаемадзеянне з літаратурным замежжам на працягу шэрагу гадоў мела характар *вяртання*, якое, будучы шмат у чым працэсам імітацыйным і штучным, вонкава праходзіла праз стадыі *прызнання, прыняцця, асэнсавання*. Я назваў гэты працэс імітацыйным, бо аб'ектыўна літаратуру беларускага замежжа ніхто не адрываў; яна існавала ў непарыўным звязку з тутэйшым пісьменствам незалежна ад цэнзурных забаронаў, ізаляцыі і негатыўнай ацэнкі крыткі. Эвалюцыя адбывалася ў самім літаратурна-крытычным працэсе, у адносінах да літаратурнага замежжа з боку прафесіянальнай і непрафесіянальнай крытыкі. Сёння настае час легалізацыі гэтай значнай часткі беларускага пісьменства, на ўзроўні напісання новай „гісторыі беларускай літаратуры". Але, перш чым гэта адбудзецца, важна вырашыць самыя простыя, здавалася б, задачы, якія я сфармуляваў бы наступным чынам: ідэнтыфікацыя, класіфікацыя, параўнанне, нарэшце, пастаноўка ў кантэкст. Гэтыя элементарныя рэчы не зроблены не толькі ў дачыненні да твораў і творцаў, якія да нядаўняга часу лічыліся як бы пад забаронаю, але і ў адносінах да пісьменства Беласточчыны. Нягледзячы на адсутнасць татальнай забароны, гэтая літаратура ўсё ж заставалася для нас замежнай, у лепшым выпадку *літаратурай братняй Польшчы*; адпаведна фармаваўся і яе кантэкст. Дакладней, яна выпадала з кантэксту.

Не вырашаная гэтая, на першы погляд, простая задача і ў дачыненні да феномена Сакрата Яновіча, здавалася, пісьменніка добра знаёмага беларускім чытачам і крытыкам.

Як і ў дачыненні да кожнага буйнога майстра, у адносінах да Яновіча могуць быць ужытыя паняцці шырокага і лакальнага кантэкстаў. У шырокі кантэкст, калі браць за ягоную аснову сферу пісьменніцкага вучнёўства і найпільнейшай цікавасці, увойдуць імёны Бабеля (*Фэст*), Паўстоўскага, Хемінгуэя, Дастаеўскага, Гарэцкага, Чорнага, Мележа, Быкава ды іншых. Кантэкст робіцца лакальным і змястоўна напоўненым, прыдатным для кампаратывісцкага доследу, калі абмежаваць яго варункамі навелізму — істотнай прыкметай не толькі жанру, але і эстэтыкі Яновіча. Навелізм — неад'емная частка мастацкага мыслення празаіка. Я не зусім згодзен з крытыкам Шырын Акінэр, якая лічыць буйныя па памеры рэчы Яновіча плыткімі ў параўнанні з ягонымі мініяцюрамі. Рэч у тым, што раманы Яновіча (*Самасей, Сярэбраны яздок, Сцяна*) суздром навелістычныя (фрагментарныя, напісаныя ў духу паэтычнай прозы). Гэтая акалічнасць збліжае ягоную творчасць з рэчамі Брыля, чые спробы напісаць буйныя (па памеры) творы абярнуліся навелістычным раманам *Птушкі і гнёзды* і некалькімі навелістычнымі ж аповесцямі.

Паэтычная мова мініяцюраў Яновіча, *бляск і водар... свежага слова* (У. Рубанаў) тыпалагічна блізкая стылістыцы брылёўскіх рэчаў, асабліва зборніка *Жменя сонечных промняў. Шурпатасць, якая робіць прозу рэчыўнай, грунтоўнай, а не празрыста-сцёртай і худасочнай* (Рубанаў) выклікае паралелі з раннім (навелістычным, *валошкавым* перыядам творчасці Чорнага. Пазіцыя і ўвага аўтара і *я-героя* — назіральніка абумоўліваюць падабенства да імпрэсіяў Гарэцка і Бядулі. Вастрыня і ўчэпістасць назірання змушаюць згадаць абразкі Карпюка.

Паэтычныя якасці стылю Яновіча, з ягонымі спарадычнымі і не заўсёды чаканымі інверсіямі, перападамі рытму, прыхаматлівай мелодыкай, дыялектызмамі заўважаны, ацэнены, абгавораны і крытыкамі, і проста гурманамі праказанага ў літаратуры слова, жывапісу словам. Менш увагі ўдзялялася другой істотнай — я б сказаў, канцэптуальнай якасці эстэтыкі Сакрата Янговіча. Іроніі.

У творчасці Яновіча іронія паўстае не як троп і нават не як ацэначна-эмацыйны момант, а як светагляд і філасофія рэчаў. У якой якасці іронія паўставала яшчэ з часоў Эразма Ратэрдамскага, але асаблівае значэнне набыла ў XX стагоддзі, у час пераацэнкі або зруйнавання каштоўнасцяў, татальнага скепсісу, расчараванняў і новых спадзяванняў.

Адна з найгалоўных функцыяў іроніі — пераадольванне ілюзорных аўтарытэтаў, удаванне значнасці. Момант пераадольвання, аднак, нёс у сабе небяспеку разбурэння *самапераадольвання*, што выявілася ў розных — мяккіх і жорсткіх — формах самаіроніі, гэтак уласцівай, апрача ўсяго іншага, і беларускай літаратуры.

У час, калі пісьменства ведала адно аб'ектыўную іронію (т.зв. іронію жыцця ў *Эдыпе-цары*, якая прымусіла Эдыпа, насуперак кволым высілкам, усё ж забіць бацьку і ўзяць шлюб з роднай маткаю, іронія стварала небяспеку самога існавання і пераадольвалася праз пакуту катарсісу. Пазней, калі майстры навучыліся самі кіраваць іроніяй, іронія жыцця саступіла месца іншым жахам. Прытым на месца жаху смерці прыйшлі *страхі жыцця*.

Страх смерці пераадольваўся хутчэй не іроніяй, а *чорным*, смяртэльным гумарам, як гэта адбываецца ў абсурдысцкіх драмах, у V акце *Гамлета*, у *Ладдзі Роспачы* Караткевіча. Іерархія страхаў выразна праглядаецца ў заключнай сцэне *Адвечнай песні*, дзе Мужык кажа:

*Раскрыйся нанова, магіла:*
*Страшней цябе людзі і свет.*

У адказ на страхі жыцця, страшнейшыя за Танатас (страх смерці) купалаўскі *я-герой* прапануе адзіны спосаб збавення: *Смейся*. З'яўляецца *чорны гумар*.

Героі пазнейшага часу ўжо не смяюцца, а іранізуюць. І гэтая *чорная іронія* (Ануй) — адказ на канцэнтрацыю страхаў жыцця.

Я згодзен з думкаю Стывена Д. з *Нашай нівы*, што канфліктная вось навелаў Яновіча ляжыць паміж паняццямі смерці і жыцця. А не па штучнаму: вёска — горад. Але, як ні парадаксальна, страх смерці лягчэй паддаецца пераадольванню праз іронію, хаця іронія і смерць — рэчы, здавалася, яшчэ больш несумяшчальныя, чым смерць і смех. Тут адступнічае нават выратавальная антынамія.

Тым не менш настрой самага першага і, падобна, улюбёнага самім аўтарам твора *Фэст* — светлы, іранічны смутак. Хоць гінуць маці і дзіця.

*Гандзі пашанцавала са смерцю: памірала ціха, як жыла*; *добра паміраць у гэтай сядзібе* — і разам з апісаннем дабрабыту і прыстойнасці Гандзінай смерці гучыць іранічна і, разам з тым, амаль ідыліяй (*Пахаванне Гандзі*).

Да смешнага недарэчна (іранічна) гінуць героі навелаў *Кароткая біяграфія Ані, Далейшае жыццё Манькі і яе смерць, Вяселле на другі дзень Калядаў* (жаніх вешаецца на ручніку, бо цесць пашкадаваў пасагу; сон), *Страшны канец Антона* (не страшны, а іранічны).

Цяжэй пераадольваюцца страхі жыцця. У формуле *Доўгая смерць Крынак* хаваецца намёк на прычыну гэтага страху: жыццё ёсць доўгім, абсурдна расцягнутым у часе паміраннем, у тым і ягоны страх.

Лакальныя ж жахі ў прозе Яновіча суседнічаюць і перадаюцца ў форме знаёмай нам *чорнай іроніі*. Прыкладам: чалавечая рука, адарваная снарадам, адлятае на 10 вёрстаў і падае разам з заціснутай у ёй сякерай пастуху ў торбу; пастух баіцца выкінуць руку з торбы. У *Фэсце* жахлівае і мала (недастаткова) пераадоленае — жах не смерці, а забыцця: *Топчуцца і поўзаюць па іх сваякі ў экстазе — госці фэставай традыцыі. Жальба разменена на дробныя манеты, малебны па чарзе становяць на калені жывых. Да змяркання, да позняга вечара.*

*Гора хаваецца ў бяссоннай начы. Спачуванне здаровым сном храпе да світання.*

Прыклады змрочнай, часам ледзьве ўлоўнай іроніі знойдзем у шмат якіх мініяцюрах Яновіча, яна надае яму тое непаўторнае, што вылучае яго з усяго кантэксту беларускай іранічнай прозы.

Адрознівае ад светлай іранічнай усмешкі Брыля або Карпюка, ад чорнага смеху Купалы, ад самаіроніі і *я-герояў* прадстаўнікоў сучаснай беларускай іранічнай прозы (В. Мудрова, У. Арлова, П. Васючэнкі, Л. Дранько-Майсюка, А. Асташонка).

Феномен недастатковай пераадоленасці страхаў жыцця ўзмацняецца ў апошніх творах Яновіча — у зборніку *Доўгая смерць Крынак*. Здаецца, што спрацавала небяспека — рэштка пераадоленага страху ў выніку разбуральнай самаіроніі перадалася персанажам навелаў — Бавантуру, Бядоціку, Петрыку, Мардаціку. У выніку персанажы ператварыліся ў гэткіх монстраў, што дало нагоду крытыку выказацца пра іх: *Сярод герояў Яновіча не знаходзіцца аніводнага больш-менш прыемнага тыпу, зь якім ня страшна было б сутыкнуцца ў цёмным завулку*. Вядома, гэтая заўвага, як і папярэдняя — пра мізантрапічны тон навелаў, адрасавана не эстэтыцы або этыцы твора, але, на маю думку, таму нечаканаму эфекту, які атрымаўся ў выніку напружанага творчага пошуку. І, трэба думаць, творчасць Яновіча здзівіць нас яшчэ шмат-якімі неспадзяванкамі. Можа быць, пераадоленнем самой змрочнай іроніі чымсь іншым... Хаця, няўдзячная гэта рэч — рабіць у літаратуры адназначныя прагнозы.

# МАЛАДАЯ „БАЦЬКАЎШЧЫНА"

*Tempora mutantur, et nos mutamus in illis* — гэта лацінская прыказка пра тое, што часы мяняюцца і мы мяняемся ў іх, якая запамяталася мне з ліцэя, і якая сёлета сапраўды закранула мне душу.

Да рэйду „Бацькаўшчына'94" прымкнуў я ў Плёсках, куды яго ўдзельнікі прыйшлі з Суража праз Страблю. Першым, што кінулася мне ў вочы было тое, што ў кучцы моладзі, якая расселася на траве ля клуба, я амаль нікога не ведаў. І няма дзіву, бо ці не большасць з іх былі ліцэісты? Заўжды бывалі на „Бацькаўшчыне" вельмі маладыя людзі, ды нават дзеткі, але ў такой сіле з'явіліся ўпершыню.

Магчыма, што такі, а не іншы склад удзельнікаў рэйду паўплываў на паводзіны ўсёй групы. Паколькі ішлі мы ўздоўж Нарвы, дзень праводзілі на рэчцы, загаралі (не было дзе схавацца ад сонца, якое сёлета прыпякала як ніколі), купаліся, будавалі замкі з пяску і гулялі ў валейбол. Вогнішчы канчаліся каля поўначы, а не раніцай, як калісь бывала.

Калі гаспадыня клуба ў Рыбалах давала нам ключы, сурова папярэдзіла, каб не нарабілі мы балагану, бо нейкая папярэдняя экскурсія страшэння набрудзіла. Якое ж было яе здзіўленне, калі, заглянуўшы ў клуб у шэсць гадзін раніцы, пабачыла, як удзельнікі смачна спяць, а навокал узорны парадак. „Гляджу, спяць як анёлкі", — сказала, заглянуўшы пазней. Дажыліся, як анёлкі...

Ветэраны „Бацькаўшчыны", якія з'ехаліся ў Рыбалы на Купалле (машынаў назбіралася столькі, што можна было б зрабіць асобнае аўтамабільнае ралі), новымі парадкамі захапляліся быццам крыху менш. Адзін з заслужаных дзеячоў БАСу, сцвердзіўшы, што нават пляшкі няма з кім распіць, хутка сабраўся дахаты.

Ніколі не забуду трох ветэранаў, якія ў наступную ноч, пасля вогнішча, якое скончылася зноў каля поўначы, у ціхім адчаі рашыліся выпіць гэтую сімвалічную пляшку. Узялі вядро запойкі і пілі дзве гадзіны, крывячыся, стогнучы і ўступаючы сабе чаргу. Наогул гэта мужыкі, якія могуць выпіць, дык іхняе мучэнне ўспрымалася мною як праява псіхічнай, а не фізічнай, нездольнасці. *Tempora mutantur...*

Усё-такі, мінулая рэйдавая эпоха мела свае прывабныя бакі. Не знайшлося сёлета завадатараў выпіць, але і некаму было завесці дыскусію, якімі поўніліся, апрача песняў, колішнія вогнішчы. Некаму было зачытаць даклад або хаця б расказаць пра мінулае аколіцы. Удзельнікі „Бацькаўшчыны' 94" проста „мелі добры час", як гавораць нашыя амерыканскія браты. Прапала ў БАСе, як я ўжо калісь заўважыў, пачуццё місіі.

З другога боку, відаць, няма цяпер патрэбы ў нацыянальным прасвятленні г. зв. „народу". У адной з вёсак праходзіў я ля лавачкі, на якой сядзелі дзве бабулі. Сказаў я „добры дзень" і пачуў яшчэ за спіною, як адна бабуля спыталася другой, хто гэта будзе. Тая адказала: „беларусы". Тут я задумаўся, па чым яна гэтаму здагадалася. Відаць, па кашульцы з „Пагоняй".

За тры дні сустрэў я толькі аднаго чалавека, які не быў упэўнены ці ён беларус, ці ўкраінец ды вельмі быў расчараваны тым, што я не хачу з ім пра гэта талкаваць. Нават славуты ўкраінскі вятрак у Козліках, які мы міналі па дарозе, робіць уражанне апусцелага. „Прыязджалі тут такія...", — успомніў мімаходзь падчас размовы мясцовы селянін.

Хлопцаў, з якімі ладзілі мы вогнішча ў Кленіках, дык наогул смешна было б усведамляць, бо не менш за ўдзельнікаў рэйду былі свядомыя.

Пасля апошняга начлегу ў Збучы (я там ужо не быў, але чуў, што вогнішча вельмі ўдалося), большасць удзельнікаў рэйду пераехала гуртам у Белавежу, на Купалле, арганізаванае БГКТ, чым вельмі ўцешылі старэйшае пакаленне. *Tempora mutantur...*

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# ПЯЦЕНКА

Пяценка — гэта царкоўка, якая знаходзіцца побач шашы з Заблудава ў Міхалова, за вёскай Фальваркі-Тыльвіцкія. Драўляная царква, пабудаваная на гары сярод высокіх соснаў і крыжоў, моцна напамінае спаленую святыню на Грабарцы. Дарэчы, перад вайной Пяценка была больш вядомая на тэрыторыі паўночнай Беласточчыны, чым Грабарка, а гэта з-за іконы Божай Маці, якая сама аднавілася ў клуні аднаго з жыхароў Фальваркаў. Ікону перанеслі ў царкву, а тое незвычайнае здарэнне выклікала вялікую хвалю набожнасці сярод мясцовага праваслаўнага грамадства і паломніцтвы ў Пяценку нават з Гарадзеншчыны, Палесся, Віленшчыны. Санацыйныя ўлады, падазраваючы, што ікону аднавілі рэстаўратары па даручэнню святароў, пасылалі ў Пяценку некалькі груп сваіх экспертаў, каб даказаць ашуканскі характар здарэння. Эксперты аднак — аб чым пісала таксама польская прэса — не дашукаліся найменшых слядоў рэстаўратарскіх прац.

Зразумела, што тае іконы як і шмат іншых твораў іканапісцаў XVIII і XIX стагоддзяў у Пяценцы ўжо няма. Царква, якая стаяла ў лесе, прыцягвала ўвагу не толькі вернікаў, але таксама і ўсялякіх злачынцаў, якія яе рэгулярна грабілі. Узломы скончыліся толькі тады, калі вынеслі адтуль апошнюю старадаўнюю ікону.

Дзвесце метраў ад царквы знаходзіцца маленькая каплічка, а ў яе нутры — крынічка з так халоднаю вадою, што ледзь даецца яе піць. Падчас богаслужэння ваду асвячаюць, а пасля вернікі п'юць яе на месцы і бяруць з сабою для тых, што не здолелі прыехаць на святое месца.

Слава Пяценкі пачалася аднак не ў 20-х гадах нашага стагоддзя. У канцы XVIII стагоддзя лютавала тут эпідэмія халеры. Людзі былі ўжо на столькі спрактыкаваныя падобнымі няшчасцямі, што ўцякалі ў лес і на высокія ўзгоркі. Там, дзе цяпер стаіць царква, аднаму з пастухоў паказалася Божая Маці і загадала паставіць на горцы царкву. „Тады, — сказала Яна, — хвароба адыдзе". Так і сталася, людзі ацалелі.

Яшчэ дваццаць гадоў таму, калі навакольныя вёскі былі мнагалюднымі, у дзесятую пятніцу пасля Вялікадня ў Пяценцы збіраліся тысячы паломнікаў. Лясамі і польнымі дарогамі, на фурманках і веласіпедах ды пяшком прыбываў сюды народ шукаць надзею і суцяшэнне. Гэта было сапраўды вялікае свята. Старэйшыя набожна маліліся, а вясковая кавалерка хадзіла натоўпам за дзеўкамі, якія ў асаблівы спосаб рагаталі. Дзеці круціліся каля цукернікаў, маючы поўны рот салодкіх ласункаў ды цягнулі за сабою сваіх дзядзькоў, хросных бацькоў да латкоў з каляровымі цацкамі. Пахла лесам, травою, конскім потам. У маёй памяці астаўся вобраз незвычайнай спантаннасці таго святкавання.

У гэтым годзе ў мяне склалася такое ўражанне, што ў Пяценку прыехала больш аўтамабіляў, чым людзей. Даўніх жыхароў навакольных вёсак прывезлі з Беластока на сваіх самаходах іх дзеці і ўнукі. Пажылыя людзі мелі нагоду спаткаць там сваякоў, былых суседзяў, знаёмых, памаліцца над магіламі блізкіх (царква стаіць на могільніку). Маладыя, якіх было надта мала, не ведалі, што з сабою рабіць. Частка сядзела ў сваіх вялікіх машынах, чытаючы газеты, некаторыя шпацыравалі па лесе, быццам па беластоцкім парку. Відаць было, што з гэтым месцам, з гэтаю зямлёю, з нашай спадчынай, нішто іх ужо не спалучае. Нават каля цукернікаў было неяк так дзіўна, пуставата. На латках ляжала ўсё, што дзеткам, выхаваным на камп'ютэрных гульнях, папахвала музеем. Усё гэта выглядала неяк так, быццам на Пяценку з'ехаліся людзі з іншай планеты, нейкія штучныя індывідуумы на фоне тае некранутай мяшчанскай цывілізацыяй прыроды. Хаця і сама прырода не мае ніякіх шанцаў ацалець перад ненасытнасцю чалавечай натуры. Пару гадоў таму назад нейкі святар-авангардыст загадаў высечы частку старых соснаў на могільніку і побач яго. Няма ўжо нават каму бараніць тое месца ад энтузіястаў пластмасавай цывілізацыі. Апошніх гаспадароў тае зямлі дзеці хаваюць ужо на бетонных могільніках у Дайлідах, Выгодзе. Няхай лепш старыя слухаюць шум аўтамабіляў, чым спеў салаўя. На помніках залатымі літарамі выпішуць іхнія прозвішчы на чужой мове. А на Пяценку неўзабаве не паедуць ужо ні жывыя, ні памерлыя. Вясковыя царкоўкі чакае лёс нашых вёсак.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**




*БАРЫС РУСКО*

**Не стукай**

Не стукай у іржавую браму.
Ніхто не жыве там.
Ніхто.
Цені даўно спаўзлі з касцей.
Нават павуцінне палопала ў швах.
Толькі кагорта пацукоў згаладалых
Вышчэрвае вочы да кускоў падла.
Не стукай!
Пачакай новых парасткаў —
Тлеюць пад дном звалкі.

**Жыццё і смерць**

Ля грані прадоння аціраюцца крылы
кажана і крылы смерці.
Смерць у прадонні займела гарэм
Знутры на завале.
Кажан — кармушка адчынена насцеж.
Прадонне гасцям радае.
Дык у чаргу па крылы!
Праверым якасць жыцця і смерці.
Прадоння грань адпаліраваная думкай
аб ёй.
Адпаліраванае абліччa смерці і аблічча
жыцця.

**За заслонай**

За заслонай заслона і сцяна,
на якой уміpае дотык.
За сцяною сцяна і ціш,
у якой гасне вобраз.
За цішшу ціш і ўсмешка,
у якой ёсць месца для ўсіх.

## Смуткуем разам з сям'ёй

7 ліпеня 1994 г. памёр бацька Барыса Руско, Амільян, вечны белавежац, разумны гаспадар і чалавек. Жыў 97 гадоў і быў найстарэйшым жыхаром Белавежы. Жыў на Падалянах Другіх (частка Белавежы). Апошняя размова з сынам была такая: „Барыс, ты напаіў коні? Ты зараў поле?"

Засталіся жонка Надзя — цікавы, адукаваны чалавек, глыбокі знаўца і носьбіт народнай песеннай творчасці і абраднасці — і дзеці: Барыс — палкоўнік Польскага Войска (ужо на пенсіі), інжынер па ракетах, вядомы чытачам „Нівы" як арыгінальны паэт, аўтар сентэнцый, і дачка Оля — магістр русістыкі (таксама на пенсіі), выкладчык рускай мовы і літаратуры ў варшаўскіх школах.

Сардэчныя спачуванні ўсёй сям'і выказваюць Вера і Георгій Валкавыцкія з Белавежы і сябры.




## Познанская прапанова

У каталогу н-р 56 антыкварыяту ў Познані (Antykwariat im. J. K. Żupańskiego, Stary Rynek 53/54, 61-772 Poznań) называюцца ніжэйпрыведзены выданні, якія, думаю, могуць зацікавіць ніўскіх кнігалюбаў. Кніжкі даступны ў свабодным продажы.

Poz. 319 — Brężgo B., Instytut archeologiczny na Białorusi, Wilno 1930. Cena 45.000 zł.

Poz. 397 — Łukaszewicz J., Historya szkół w Koronie i Wielkim Księstwie Litewskim od najdawniejszych czasów aż do roku 1791. Tom III. Poznań 1851. Cena 200.000 zł.

Poz. 398 — toż samo... Tom II. Poznań 1850. Cena 300.000 zł.

Poz. 409 — Nałęcz J., Litwa a Polska. Warszawa 1920. Cena 40.000 zł.

Poz. 415 — Olędzki K., Kresy wschodnie a Polska. Warszawa 1919. Cena 45.000 zł.

Poz. 492 — Żerbiłło-Łabuński J., Polska historyczna. Z. 2. Korona i Litwa. Warszawa 1915. Cena 25.000 zł.

Poz. 664 — (Sprawozdanie), Miejskie Muzeum Przyrodnicze w Grodnie, Działalność za lata 1927-1929, Grodno 1931. Cena 80.000 zł.

Poz. 665 — (Sprawozdanie), Muzeum w Grodnie, Sprawozdanie z czynności za rok 1923, Grodno 1924. Cena 120.000 zł.

**П. БАЙКО**

# ПЯТА—ШОСТЫ УСЯЛЕНСКІ САБОР — ТРУЛЬСКІ СІНОД

Пасля VI Усяленскага Сабора адносіны між Рымам і Візантыяй былі вельмі добрыя. Імператар Канстанцін Паганат (Барадаты) адмяніў даніну 300 салідаў, якую плаціў Рым пры зацвярджэнні новага папы і згадзіўся, каб выбар новага папы зацвярджаў не сам імператар, а толькі яго экзарх у Італіі. Пасля аказалася, што экзархі былі прадажнымі і стараліся, каб папамі былі візантыйцы. І так папа Іаан V (685—686) быў сірыйцам з Антыёхіі, папа Конан (686—687) быў грэкам з Тракіі, папа Сяргей I (687—701) быў сірыйцам з Палерма (Сіцылія). Супраць дыктату імператарскіх экзархаў бунтавалася насельніцтва Рыма і выбірала антыпап. Супраць Конана выбралі Фёдара (687), а супраць Сяргея — Пасхалія (687). Тады арабы захапілі многа зямель Сірыі і Егіпта і маса насельніцтва з гэтай тэрыторыі пераехала ў Італію і Рым. У Рыме паўстала многа ўсходніх манастыроў. Духоўныя грэкі і сірыйцы занялі важныя пасады ў рымскім Касцёле. У дакументах папскай канцылярыі паявілася акрамя латыні грэчаская мова, якую ўвялі нават у лацінскую літургію, аб чым сведчыць благанне *Кырые элейсон* (Госпадзі памілуй). Сын імператара Канстанціна Паганта, імператар Юсцініян II сазваў у 692 г. у Канстанцінопаль Сінод, які назвалі Трульскім ад назвы святліцы ў палацы, у якім ён адбываўся. Імператар не меў амбіцыі наследаваць імператара Юсцініяна I і не выступаў супраць лацціннікаў, як гэта пішуць рымска-каталіцкія гісторыкі (напрыклад: Umiński, Historia Kościoła, Opole 1959, t. 1, str. 215). Імператар сазваў Сінод, каб паднесці ўзровень маральнага жыцця і уніфікаваць многія дысцыплінарныя практыкі ва ўсім хрысціянстве. Імі павінен быў заняцца VI Усяленскі Сабор, але тады яго скарацілі, каб не вызваць супярэчнасцей між Усходам і Захадам. Усходняя Царква прызнала Трульскі Сінод працягам VI Усяленскага Сабора і так асталося. Часам называюць яго пятаспостым, бо ён дапоўніў дысцыплінарныя каноны V і VI Усяленскіх Сабораў. Папулярна прынялася назва „Трульскі Сабор". У Саборы прымала ўдзел 211 епіскапаў. Кіраваў ім патрыярх Канстанцінопаля, Павел. Сабор прыняў 102 каноны. У каноне 16 установілі чаргу па важнасці пяці патрыярхаў. Ён зацвердзіў пастановы II Сабора (381 г.) і IV (451 г.) і зраўняў канстанцінопальскага патрыярха з рымскім папам ва ўсіх царкоўных прывілеях, што пасля вельмі абурыла Рым. Былі зацверджаны розныя па важнасці каноны, якія пасля не заўсёды выпаўняліся нават свяшчэннікамі. Напрыклад, у каноне 96 было забаронена завіваць валасы на галаве, а ў 76 — купацца разам жанчыне і мужчыну (мужу з жонкай). Сабор адкінуў прымусовы цэлібат (бясшлюбнасць) духавенства Захаду, як і адсутнасць цэлібату на Усходзе. У чатырох канонах Сабор устанавіў, што духоўны можа жаніцца толькі раз і то перад высвячэннем на свяшчэнніка. Нельга духоўнаму жаніцца з нявольніцай ці артысткай. Калі свяшчэннік стане епіскапам, то жонку павінен адаслаць у далёкі манастыр (канон 48). Сабор выступіў супраць заходняй практыкі пасціць у суботу ў час Вялікага Посту, а ў каноне 55 і 56 падкрэслена, што практыка постаў павінна быць аднолькавая ва ўсім хрысціянстве. Сама думка уніфікаваць царкоўныя звычаі ва ўсім хрысціянстве не была кепская, але ўжо было позна, каб яе ўсюды правесці. Ужо зайшлі вялікія змены ў Заходнім Касцёле, які на працягу трох стагоддзяў ішоў сваёй дарогай не аглядваючыся на „Апостальскія каноны" ці старыя хрысціянскія звычаі. Спроба павярнуць Заходні Касцёл была ў той момант немагчымай. Папскія легаты на Саборы падпісалі ўсе каноны, але калі імператар Юсцініян II пераслаў іх папу Сяргею, то ён назваў іх „памылкай" ці ерассю і не згадзіўся іх падпісаць. І імператар не мог яго прымусіць, бо яго баранілі лангабарды. У 695 г. уладу ў Канстанцінопалі захапілі „зялёныя", абрэзалі Юсцініяну II нос, выгналі яго і выбралі іншага імператара. Пасля 10 гадоў „блакітныя" забралі ўладу ў „зялёных" і Юсцініян II ізноў стаў імператарам, а папам Іаан VI (701—705), грэк па нацыянальнасці, а пасля Іаан VII (705—707) — невучоны грэк, сын імператарскага служачага. Яны не згадзіліся падпісаць каноны Трульскага Сабора. І толькі папа Канстанцін I (708—715) прыехаў у Канстанцінопаль і там пры Юсцініяне II іх прыняў і падпісаў, але быццам бы не згадзіўся з канонам аб цэлібаце свяшчэннікаў. Без усякіх агаворак усе каноны Трульскага Сабора зацвердзіў 60 год пазней папа Адрыян I (772—795). А імператара Юсцініяна забілі яго праціўнікі ў 711 г. і імператарам стаў афіцэр Варданій. Візантыя знайшлася ў хаосе. Пад сценамі Канстанцінопаля ад поўначы стаялі турэцкія балгары, а ад поўдня — арабы. Гэта выкарыстала рымскае папства, якое парвала сувязі з Усходняй Царквой. Папа Канстанцін I кінуў анафему на узурпатара Варданія, які быў монафелітам. Партыя „блакітных" скінула з трона Варданія ў 713 г., але не магла захапіць поўнай улады. І толькі вынесены арміяй і ліберaламі на трон імператар Леў III (717—741) адкінуў атакі вонкавых ворагаў і справіўся з унутраным хаосам. Але скончылася апека Візантыйскай імперыі над папствам, якая аднак фармальна яшчэ 70 год існавала. Рымскія папы будуць яшчэ гаварыць, што ўсё робяць па даручэнню імператара, хаця ўжо гэта было няпраўдай.

**ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ**

**Якія мы людзі**

# НАСТУЛЯ

Настуля прыехала ў Каўпакі даўно. Калі? Не толькі старыя памятаюць, ейныя аднагодкі, якім цяпер за восемдзесят, што гадоў з дзесяць пасля вайны прыехала. З двумя падгадаванымі дзяўчынкамі. Муж яе кінуў, казалі, за бабамі чужымі пабег. Ну бо і колькі тае Настулі! У нашай вёсцы бабы як печы, а тая бы пыляня, толькі носік тырчыць, здаецца, усю ў жмені змясціў бы, такая драбнеча. А ўчэпістая да працы, о-ё-ёй! Яшчэ цяпер як рушыць на загоны, то маладзіца з ёю не ўправіцца.

Прыехала тады ў пяцідзесятых. Даў ёй каморку стары Лапуцкі. Сапраўды, Максім ужо тады моцна старэнькі быў. Настулі за сорак, а той — адною нагою на тым свеце. Прыняў Настулю за няньку і гаспадыню. Самотны (хоць дзяцей чацвёра адправіў у горад), хворы. Ведама, Настуля агірачыла гаспадарку. Ёй ці на сваім, ці на чужым — адна слава. Зямля гарэла ёй у далонях. З жывёлай спорылася, асабліва добра цяляты пайшлі. Дочкі памагалі. Стары і духам, і целам акрыяў, з любасцю пагдядаў, як гаспадарка падымаецца з руіны. Дзе там было яму да бабы, дый такое маладзіцы, але ўсё ж пачалі ў сяле шушукаць, што, пэўна, Настулю за каханку мае, і ці не было б ім лепш жыць па-божаму? Зычлівая суседка памчалася ў Беласток, да ягоных распанелых дачок, маўляў, чужая бацькоўскае ім крадзе. І пачалася валакіта. Зачасцілі штонядзельку „таксоўкі", выходжалі з пляскатымі шынамі, столькі дабра валаклі дахаты, бо цяпер ужо было з чаго браць. І аднойчы старэйшая дачка запытала ўпрост: ці не запісаўся ўжо стары, бо як што, то ў выпадку ягонай смерці не дадуць ані кропелькі гэтай прыблудзе, гэтая сухой б.., што тут рашыла ўкараніцца разам са сваімі бахурамі. Настуля засмяялася: маўляў, патрэбны мне мужык! Сябрам мне толькі ваш бацька, добрым чалавекам, які не адмовіў дапамогі, даў кавалак хлеба, вяду яго гаспадарку, толькі і ўсяго. Бразнуў кілішкам малады Лапуцкі: не будзе тут табе, прыблуда, месца! Няхай усё пагніе, але чужым не аддамо ні каменьчыка з нашага поля! Сядзела Настуля спакойна, склаўшы сціснутыя далоні на падол, слухала ланку раптам ахопленых сыноўскімі пачуццямі дзяцей Лапуцкага. Потым устала, пайшла пакаваць свой парэпаны кардонавы чамаданчык: укінула святочную выпалавелую сукенку, сандалікі дзяўчынак... Дочкі Лапуцкага паставалі ззаду, сцяўшы зубы. Стары прытэпаў, аслаблы апёрся аб вушак дзвярэй і старэчым дыскантам прапішчаў:

— Вон з мае хаты, д'яблава насенне! Трапіўся мне добры чалавек, што з сэрца мяне да магілы датрымаць хоча, а вы як сцярвятнікі прыляцелі тут усё расцягнуць?! Прэч!

Захадзілі дочкі, забегаў сын па пакоі. Узняўся такі вэрхал, што ўжо не чутно было галасоў з вуліцы — паўвёскі стаяла пад ліпай і абмяркоўвала, хто каго паб'е і чым уся справа закончыцца. Цёткі ўжо збіраліся высылаць хлопца на ровары ў мястэчка, каб званіў па скорую і міліцыю, бо, пэўна, кроў палілецца. Але як стукнуў малады Лапуцкі Настулю ў вуха, як тая завішчала, усе кінуліся разбараняць. Не спадзяваліся гэтага маладыя — першы раз такое здарылася ў вёсцы, каб суседзі захацелі мецъ дачыненне да чужое справы. Праўда, Юля Васілішына цягнула свайго чалавека назад, шарпалася:

— Чаго ты туды прэшся, гэту сухую к... ратаваць бяжыш?! А хай сабе пазабіваюцца, дый годзе! Якая там табе справа!

— Настуля ніякая не такая, каб які гаўнюк меў права яе біць! Гэтыя гіены жыць бацьку не дадуць, цяпер то яго ўспомнілі, а так то хоць бы жывым у зямлю пайшоў! — адмахнуўся Юлін Лукаш і пабег за іншымі.

З'ехалі тады хутка патомкі Лапуцкага, паламаўшы спачатку новы плот ды пабіўшы новы посуд у хаце, што яго Настуля за сваё купіла. Зноў запрапанаваў Максім Настулі, каб запісацца, бо, хоч між імі няма ніякага дачынення як мужа ды жонкі, то хто ж мець будзе права на дабро, якое тут пры ім нажыла? Вядома, згодна з правам Настуля як удава будзе мець нейкія правы на зямлю і хату. Усё махаў галавою над сваім жыццём Максім, смерці выглядаў хоч бы і заўтра, але Настуля нават пра гэта і не думала. Не хацела рабіць цырку з замуства, бо якія ж яны муж і жонка, калі яму не на ложак глядзеці, а на дамавінку, і няньчыць яго трэба, а не абдымаць ды цалаваць! Але ўпёрся стары, нэндзіў, маліў, аж упрасіў Настулю запісацца. Два месяцы да свае смерці. Пятнаццаць год, бачыце, пражыў пад Настулінай добрай рукою, і пахавала яго як чалавека, і помнік заказала. Праўда, аж два помнікі дасталася Лапуцкаму: ад *pogrążonych w smutku synów i córek*, з чорнага каменя, з залатымі літарамі, і цэментавы, просценькі, ад жонкі; потым яго скінулі з копчыка, каб на яго меца паставіць той дарагі, найпрыгажэйшы на ўсім могільніку. Што той помнік! У параўнанні з коштамі судоў з Настуляй гэта было нішто! Спачатку дзеці хацелі даказаць несапраўднасць тастамента, маўляў, стары ўжо не пры памяці быў. Хітрасцю абматала старэчу хціваа кабета. Другое — гаспадарку да руіны давяла (знайшліся сведкі ў вёсцы, што бачылі, як спекулянтам выводзіла тузін бычкоў на прыцемках, каб ніхто не звочыў). І што не пятнаццаць год гаспадарыла, а пару месяцаў да пахавання. Бо, ведаеце, без прапіскі ў вёсцы сядзела, хто ж там у той час так на паперы глядзеў, як сёння! Нічога, аднак, нашчадкі Лапуцкага не даказалі ў судзе. Сплаціла ізняя часткі Настуля, засталася амаль голая, з пустымі хатай, хлявамі, аборай. Толькі пару курак бегала па падворку. Добра, што поле было абсеяна-абсаджана. Яшчэ і з сёлетняга плёну прыйшлося шмат аддаць за паслугі „кулку". Зараз і дочкі свае замуж паддавала Настуля. Адну мазур узяў — ой, як плакала маці, не хацела аддаваць яе чужому, не рускаму чалавеку. І мела рацыю — не ўшанаваў Аліны. Праўда, жывуць дагэтуль разам, але што гэта за жыццё, калі штодзень чуе яна „кацапка" ды „кацапка", і ад яго, і ад свякрухі, і ад родных сыноў! Малодшая, Крыська, за нашага пайшла, але не ўжыліся, хоць характарамі падобныя. На старасць уздумалі развесціся. Крысіны дзеці цяпер штотыдзень да бабы прыязджаюць, усё раяцца, пытаюцца не ў маткі ці бацькі, а бабу слухаюць. Баба, хоць ёй ужо 84 гады, гаспадарку дзяржаве не аддае, можа, унучак наймалодшы адумаецца, возьме маёнтак у свае рукі? Добры хлопец, кемлівы, разбіраецца ў гаспадарцы, хоць сам працуе на фабрыцы. Тут жа на сваім быў бы. Гаспадарка дагледжана, выраблена кожная грудка зямлі. Амаль усе гаспадары ў вёсцы, нават на гадоў 20 маладзейшыя ад Настулі, пааддавалі сваю зямлю „панству", на пенсіях калякаюць, але як жа можна зямлю аддаваць, калі яе ніхто рабіць потым не хоча?! Ляжаць палоскі аблогамі! Як чалавек можа на гэта глядзець! Ці ж ім сэрцы не баляць! Бо з чаго ж, як не з любові да зямлі яна, Настуля, тут учапілася, у гэтыя пясчаныя пагоркі! Даказала сваю ўласнасць не толькі да Максімавага поля, але і да гэтае каліс чужое ёй вёскі, дзе знайшла прытулак. Праўда, ейная гаворка і сёння адрозніваецца ад суседскай, але яна ізняя цяпер, з Каўпакоў.

— Глянь, Міра, — кажа баба Настуля, — дае Бог людзям роднае месца, куды, як птушкі ці звяры вяртацца, ляцець павінны. А, бачыш, толькі на мой панадворак мае птушаняты заглядаюць. А не зязюлі ж нашы бацькі, ніхто ім не можа закінуць, што яйкі камусьці падкідалі! Нагадавалі сабе памочнікаў, але дзе яны?..

**МІРА ЛУКША**

# УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ — ПАЭТ РЭФЛЕКСІЎНЫ

## Частка XVI

Духоўны крызіс, выкліканы прабываннем на эміграцыі, набыў у паставе Уладзіміра Клішэвіча надзвычай глыбокі характар. Паэт быў выразна расчараваны амерыканскай рэчаіснасцю і лічыў яе нятворчаздольнай. Зразумела, што чым болей крытычна адносіўся ён да выгнаніцкай сітуацыі, тым болей быў схільны ідэалізаваць беларускую рэчаіснасць у пакінутай краіне. Паэт быў схільны забываць аб страшэнных выніках саветызацыі Беларусі і яе татальнай русіфікацыі. Калі ён прыехаў у БССР, напэўна былі яму паказаны спецыялістамі ад палітычнай рэжысуры толькі тыя фрагменты беларускага жыцця, якія мелі найбольш прывабны выгляд. І таму Уладзімір Клішэвіч, мабыць, шчыра здзіўляўся, калі сёй-той з яго старых знаёмых, а можа і з маладых, праяўляў шчырае зацікаўленне і захапленне захадам.

Праявай такога здзіўлення, а нават і асуджэння праэміграцыйных тэндэнцый сярод савецкіх беларусаў, быў верш Уладзіміра Клішэвіча „Папярэджанне". У гэтым творы паэт сваё знаходжанне на эміграцыі называе „памылкай" і заклікае суайчыннікаў з БССР гэтай памылкі ніколі не паўтараць. Паэт лічыць, што незалежна ад абставін і сітуацый, нават калі б былі яны трагічныя, беларусы павінны трымацца роднай зямлі.

*Так хочацца вам глянуць за мяжу?*
*На слова мне паверце — я гэтага баюся.*
*Адно я вам па шчырасці скажу:*
*Не паддавайцеся мане, спакусе.*

*Адсюль як моцы ёсць крычу:*
*Маёй памылкі вы не паўтарыце!*
*Нам гэты свет зусім не па плячу!*
*Няма чаму дзівіцца ў гэтым свеце.*

*Жыцця шляхі на выснаў прывялі:*
*— Хай б'е пярун, хай крэсляць*
*бліскавіцы,*
*Трымайцеся вы роднае зямлі,*
*Як дзеці матчынай трымаюцца*
*спадніцы.*

Сярод шматлікіх вершаў, прысвечаных эміграцыйнаму побыту і чужыне, у гэтым творы Уладзіміра Клішэвіча, бадай што найбольш яскрава праяўляецца ідэя інтэрвенцыянізму. Паэт адназначна імкнецца да таго, каб беларус шукаў шчасце толькі на роднай зямлі, а не ў далёкіх краях. Трэба сказаць, што такія інтэнцыі былі, па сутнасці, чужымі амаль усім беларускім эміграцыйным пісьменнікам. Іх творчасць наогул характарызуе месіянізм, вера ў тое, што літаратурнае і публіцыстычнае эміграцыйнае слова адыграе рашучую ролю ў фармаванні духоўнага аблічча ўсіх беларусаў, што прычыніцца да пабуджэння духа непакоры і змагання сярод падсавецкіх беларусаў.

Уладзімір Кліцэвіч у пазнейшы перыяд эміграцыйнага жыцця выразна адышоў ад такога тыпу ідэй і пайшоў у напрамку прымірэння з савецкай рэчаіснасцю. Можам нават гаварыць аб свайго роду пакоры ў адносінах да савецкага сіндрому. Можам думаць, што пісьменнік паверыў у савецкую прапаганду, мэтай якой было пераканаць сваіх і чужых грамадзян аб тым, што савецкая сістэма гэта пераможная будучыня свету. І тут Уладзімір Клішэвіч памыліўся. Аднак не будзем асуджаць пісьменніка за яго памылкі.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# БЕЛЫ БУСЕЛ

Белага бусла арнітолагі выбралі птушкай 1994 года. Звязана гэта з міжнародным падлікам буслоў, які цяпер праводзіцца ў большасці краін Еўропы. Упершыню белыя буслы сталі аб'ектам інвентарызацыі ў 1934 годзе. Падлікі буслоў праводзяцца кожныя 10 гадоў. Паказваюць яны, як меншае лік гэтых птушак у некаторых рэгіёнах.

Велічыню сусветнай папуляцыі буслоў арнітолагі ацэньваюць на 120—150 тысяч пар; з гэтага ў 1984 годзе ў Еўропе жыло каля 105 тысяч пар. У параўнанні з 1974 годам абазначае гэта змяншэнне на 12 тысяч пар. Польшча займае вядучае месца ў буслінай геаграфіі; пасля распаду Савецкага Саюза, польская папуляцыя белага бусла стала найбольшай у свеце. У 1984 годзе жыло ў нас 30500 пар буслоў — гэта на 3400 пар менш, чым у 1974 годзе. Найбагацейшым у буслы куткам Польшчы з'яўляюцца Вармія і Мазуры разам з суседнімі рэгіёнамі. Асабліва на поўначы гэтай тэрыторыі многа бусліных калоній — некаторыя налічваюць нават па 40 гнёздаў; такія калоніі не сустракаюцца ні ў іншых частках краіны, ні ў замежжы. У 1984 годзе найбольш буслоў жыло ў Сувальскім (31400 пар) і Ольштынскім (2593 пары) ваяводствах. У нас буслы яшчэ не выміраюць, але ў Бельгіі зніклі ў канцы XIX стагоддзя, у Швейцарыі ў 1949 годзе, а ў Даніі і Галандыі захавалася ледзь па 8—9 пар.

На Беласточчыне буслы гнездзяцца на клунях або электрычных стаўбах. У кожнай вёсцы Бельскай гміны ёсць 1—3 бусліныя сем'і. У Відаве ўжо 15 гадоў на клуні Грышы Себясевіча буслы кожны год выседжваюць па трое буслянят.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# ГАЗЕТА БЕЛАВЕЖСКІХ ПЕНСІЯНЕРАЎ

„Tu Mieszkamy" — такі загаловак часопіса, які пачаў выдаваць Домам грамадскай дапамогі (ДГД) у Белавежы. Вось напрыканцы чэрвеня г.г. выйшаў ужо другі нумар, у якім знаходзім м. інш. успаміны дырэктара ДГД Мікалая Галёнкі з выпадку пяцігоддзя існавання гэтай установы, слова а. Сяргея Корха пра праваслаўнае свята Пяцідзесятніцу, інфармацыю пра нядаўні Фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, рэкамендацыю сямяціцкай паэтэсы Юліі Гранацкай. Далей змешчаны інфармацыі пра ўдзельніцтва калектыву „Эскаўт" з белавежскага ДГД у фестывалі, які адбыўся ў Дамброве-Гурнічай (май г.г.) і ў рэгіянальным аглядзе мастацкіх калектываў, што праходзіў у Беластоку (чэрвень г.г.). Ёсць таксама артыкулы пра новаадкрытую галерэю-музей Тамары Тарасевіч і пра ДГД у Чараўках.

Часопіс выдаецца ксераксным парадкам. Рэдакцыйны калектыў састаўляюць: Мікалай Галёнка, Ізабела Алёбры, Раіса Давідзюк і Эдвард Аклота. Калектыў адкрыты на супрацоўніцтва з усімі, хто цікавіцца грамадскай дапамогай. Адрас рэдакцыі: „Tu Mieszkamy", 17—230 Białowieża, ul. Centura 2, tel. 12—424, fax 12—508.

**ПЁТР БАЙКО**

# ЧАРАЎНІКІ

## 1

Мая пакойная баба Малання ткала дываны-пераборы. Шмат людзей да яе прыходзіла заказаць дыван, бо ткала іх яна выдатна. Госць сядзе, паразмаўляе не толькі пра справу, з якою прыйшоў. Часта ў размовах гаварылася аб розных страхах і жахах, чарах і чараўніках. Пасля таго сніліся мне кашмарныя сны. Тыя аповяды памятаю дасюль.

Калісь перад першай вайной у вёсцы М. жыла адна сям'я, члены якой, казалі людзі, умелі замяніцца ў ваўкоў, пабегчы ў поле, дзе пасвіліся авечкі і ўкрасці адну-дзве сабе. Потым ізноў перакідваліся ў людзей і спраўлялі авечае мяса. Усе людзі ведалі, што яны так робяць, але баяліся іх. Пасля выезду ў бежанства сям'я гэтая не вярнулася на радзіму.

Калі мая прабабка з сям'ёй была ў бежанстве ў Сібіры, ведала жанчыну, якая ўмела ўвагнаць у чалавека д'ябла. Яе брат займаўся адваротным — выганяў яго малітвай. Аднойчы адна маладая сям'я касіла траву. Жонка ў пэўны момант заўважыла: „Глядзі, Васіль, якая прыгожая дама ў чырвоным капелюшы ходзіць!" Муж глянуў і здзівіўся, таму што ніякай жанчыны не ўбачыў. Жонка крыкнула і кінула мужу касу пад ногі. Васіль здагадаўся, у чым справа і павёз жонку да брата чараўніцы. Пацыентаў „доктар" меў шмат. Якраз выганяў злога з маладога мужчыны. Д'ябал не хацеў выходзіць, крычаў: „Я не хацеў сюды лезьці, мяне твая Каробушка ўвагнала! Цяпер мне тут добра!". Брат чараўніцы маліўся і прасіў: „Выйдзі з гэтага цела, пакінь беднага чалавека!". А чорт усё сваё паўтраў. Толькі ў дзесяты раз з рота хворага пайшла густая пара і той страціў прытомнасць. Пара асела на падваконніку і пераўтварылася ў пеўня, які закукарэкаў і знік з вачэй...

У вёсцы Б. адзін чалавек хваліўся, што ягоная жонка ведае, як памалу знішчыць пакутамі чалавека. Муж таксама потым навучыўся гэтай справе і такім чынам даканаць чалавека было яму як плюнуць. Сястра гэтага Сцяпана была замужам у той жа вёсцы, мела ўжо вялікіх дзяцей. Наймалодшая яе дачка, Агата, хадзіла ў чацвёрты клас сельскай школы. Сцяпанава сястра падсмейвалася з братавай гаворкі, а ён усё казаў, каб не рабіла з яго жартаў, бо будзе бяда.

Аднойчы прыйшла Сцяпанава жонка і прынесла Агаце сушаных сліваў і груш. Дзяўчынка вельмі любіла сушаную садавіну і хутка з'ела падарунак. І з тае пары пачало тварыцца з ёю кепскае. Не елася ёй, не спалася. З кожным днём горшала. Дайшло да таго, што магла толькі сядзець скурчаная, уціснуўшы галаву паміж каленяў. Усе дома ведалі, што гэта Сцяпанава жонка прынесла малой хваробу ў сушаных фруктах. Калі заходзілі да сваякоў, зайсёды пыталіся: „Што ты думаеш, Вера, што такое з нашай Агаткай?". Тая адказвала: „Гэта, можа, ад празмернай навукі, так яна старалася быць найлепшай у школе". „Што ты кажаш, панскія дзеці не так вучацца, а не хварэюць!"

Хтосьці падказаў, што ў вёсцы С. жыве знахарка, якая знаецца на такіх справах. Яна і сказала, што хваробу ў дзяўчынку ўвагнала жанчына з чорным воласам. Трэба яе асцерагацца і нічога з ейных рук не браць. А хваробу можна будзе выгнаць пры дапамозе цёплае конскае мачы ад сівое кабылы.

У вёсцы мелі такую кабылу. Далі цёплае мачы Агаце. Дзяўчынка, п'ючы, вішчала як дзікі звер, пасля заснула. На другі дзень, калі пайшла за патрэбай, выціснуўся з яе нежывы даўжэзны вужака. З тае пары ніхто не хацеў мець дачыненне ні са Сцяпанам, ні з ягонай жонкай.

У вёсцы С. жыў бедны селянін. Карміў сям'ю злоўленай рыбай, наймаўся ў багатых гаспадароў, працаваў у лесе пры вывозцы драўніны. Аднойчы, плывучы лодкай да вядомага сабе рыбнага месца, заўважыў на беразе вялікую, у чорных вокладках кнігу і забраў яе. Дома пачаў чытаць. А гэта была чарадзейная кніга. Дзямян даведаўся з яе, як аднясь каровам малако, змяніцца ў вужаку ці іншага звера і да гэтага падобнае. Тры месяцы чытаў па пару старонак, а калі дайшоў да апошняй, там стаяла, што хто займеў гэтую кнігу, цяпер пад уладай Д'ябла, і павінен падпісацца ўласнаю крывёю. Дзямян спалохаўся, плюнуў, пачаў праклінаць сябе за тое, што забраў гэтую кнігу з берага. Лепш мне было быць непісьменнаму, і не ведаць гэтых таямніц, лямантаваў. Кнігу вынес на гарышча і пастараўся на яе забыцца.

Вясной Дзямян паплыў па рыбу, налавіў яе шмат. Пад вечар вяртаўся дамоў і пачуў, што нехта яго заве. Спачатку нікога не ўбачыў, але потым звочыў некалькіх мужчын з сякерамі, якія плылі ў паветры над рэчкай. Крычалі яны, каб падпісаўся крывёю, бо тут жа зараз яго зарубаюць. Рыбак пачаў маліцца, з усяе сілы веславаў, каб хутчэй даплыць да берага. Удалося ўцячы ад д'яблавых пасланцаў. Але з пераляку цяжка захварэў і хутка памёр. Людзі пасля хаўтураў казалі, што па Дзямянавай хаце хадзіў вецер.

*(працяг у наступным нумары)*

**АЎРОРА**

# ГАРАСКОП ДРУІДАЎ

## 2

ВЯЗ, *(12—24 студзеня, 15—25 ліпеня)*. Вяз даволі распаўсюджаны ў Беларусі. Суцэльных гаёў, як дуб, бярэзіна ці асіна, ён не ўтварае, але месцамі расце побач з іншымі пародамі дрэў у так званых шыроkалістаvых лясах. Сярод іншых дрэў вяз лёгка пазнаць па лісці цёмназялёнага колеру з зубчыкамі па краях, якое па форме нагадвае яйка. Лісце вяза даволі часта пашкоджана тлёю — кідаюцца ў вочы так званыя маршчыністыя галы, нарасты на лісці. Кара з найболей распаўсюджанага ў Беларусі гладкая, з-за яе, відаць, вучоныя далі гэтаму віду назву — вяз гладкі. Навуковая лацінская назва дрэва вяз — ульмус. Што меркавалі пра людзей, адпаведнікаў вяза, кельцкія жрацы? Вязы — вялікія маралісты, а таму, хоць і шляхетныя і спагадлівыя, часам становяцца дэспатамі ў сям'і. Сваё сужонства яны трактуюць вельмі сур'ёзна і шмат патрабуюць як ад самога сябе, так і ад іншых. Чалавек-вяз папракае блізкіх нават самымі нязначнымі памылкамі, з-за чаго траціць і сваіх сяброў. Аднак у працы яго вельмі цэняць, таму што мае не толькі крытычны, цвярозы розум, але і здольныя да ўсялякай работы рукі.

*(працяг у наступным нумары)*

# КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. зуб слана, 8. сібірскі лес, 9. крайняя дошка, 10. відазмяненне кіслароду, 11. пустазелле з моцным пахам і горкім смакам, 13. занятак, учынак, судовы працэс, 15. лак для паліроўкі дрэва, 16. польскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі, 20. каротка пісьмовая перадача зместу, 22. сталовая, 23. хлус, 27. цвіце ў купальскую ноч, 29. раптоўны перапалох, 30. жаночае імя, 31. алейная расліна, 32. гульня ў пласцінкі з вочкамі, 33. след ад свежай раны, 34. нямецкі матэматык (1777—1855).

**Вертыкальна:** 1. дзяржава ў Афрыцы, 2. ваенны дарадчык рымскага імператара Аўгуста, 4. дагестанскі народны танец, 5. горад у Кітаі, 6. ядавітая змяя, 7. афарбоўка, 12. патомак, 14. частка калаўротка, да якой прымацоўвалі кудзелю, 16. расліна сямейства міртавых, 17. жыхар лясоў і балот, 18. аўстрыйскі кампазітар (1885—1935), 19. тулава чалавека, 21. наследнік Брэжнева, 24. палёгка, 25. вельмі рэдкі прадмет, 26. падарунак маладой ад бацькоў, 27. мужчынскае імя, 28. брус у дзвярах.

**Ш**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 23 н-ра:** кола, лона, сала, рыла, альт, лось, соль, лунь, стол, сіло, ліса, анёл, лязо, Ялта, тлум, дула.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Аляксандр Дабчынскі і Лукаш Пацэвіч** з Беластока.

**МІНІ-ДАВЕДНІК**

**Агрыпа** — рымскі дзяржаўны дзяяч.

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787. Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4313. Жыхары і настаўнікі вёскі Арэшкава | — 155.000 зл. |
| 4314. Ніна Прыступюк (Гайнаўка) | — 120.000 зл. |
| 4315. Гражына і Славамір Бароўскія (Беласток) | — 300.000 зл. |
| 4316. Аляксандр Кунах (Беласток) | — 100.000 зл. |
| 4317. Міхал Боўтрык (Атвоцк) | — 100.000 зл. |
| 4318. Андрэй Кукевіч (Менск) | — 25.000 зл. |
| 4319. Аляксандра Сегень (Гайнаўка) | — 50.000 зл. |
| 4320. Аляксандра Семянюк (Гайнаўка) | — 50.000 зл. |
| 4321. Людміла Рэент (Гайнаўка) | — 50.000 зл. |
| 4322. Аліна Якімюк (Гайнаўка) | — 30.000 зл. |
| 4323. Жыхары вёсак Курашава і Камень | — 762.000 зл. |
| 4324. Прыхадскі хор у Гайнаўцы | — 500.000 зл. |
| 4325. Міхал Панфілюк (Нараўка) | — 170.000 зл. |
| 4326. Міхал Голуб (Гайнаўка) | — 133.500 зл. |

**Дзякуем.**

**Наш адрас:** Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.



# ПАПРАЎКА

У 28 н-ры „Ніву" ў інтэрв'ю Уладзіміра Сідарука з бурмістрам Кляшчэль („Асноўнае — вырашыць праблемы", стар. 3) па віне аўтара і рэдакцыі былі дапушчаны дзве памылкі. Першая: датацыя Куратарыі на пабудову школы склала **2 250 млн. зл.** (а не 2,5 мільярда). Другая: солтыс вёскі Сакі называецца **Рыгор Барана.**

За дапушчаныя агрэхі сардэчна перапрашаем!

**Рэдакцыя**


Ніва

**"Niwa"**

ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1994 r. upływa 20 sierpnia 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## ПІШУ ЯК ЖЫВУ

*(вынятка з кнігі)*

* * *

Іду з малымі ўнукамі па алеі дзіцячага парку ў Менску. Перад намі два незнаёмыя хлопчыкі. Адзін кажа, што ўвосень ён пойдзе ў школу, будзе там вывучаць англійскую мову. Другі таксама пойдзе ў першы клас. Ён кажа — вядома ж, з пэўнай зухаватасцю, каб выйшла яшчэ лепш:

— А я буду изучать белорусский язык. А как вырасту — поеду в Белоруссию. У них там всегда тепло, они там все чёрные.

Такога не прыдумаеш.

Адна пацеха, што гэта было пазалетась...

**ЯНКА БРЫЛЬ**

## СЕНТЭНЦЫІ

Трэснуты звон
апавяшчае аб уласным болі.

* * *

Нават званар не прадчувае трывогі
маўчуна-звана.

* * *

Калі вусны маўчаць,
розум узважае словы.

* * *

Чорны колер — унутранасць
акамянеласці, белы — абалонка.

* * *

Хто не шануе рацыяў чужых,
у таго і ўласная хісткая.

**БАРЫС РУСКО**






Малюнак А. Гармазы



**ЗА ШТО?**

*Глядзяць дакорліва з нябёсаў*
*Францішак, Янка і Якуб.*
*Ніл Гілевіч.*

Я валуны збіраў у жыце
І васількі заўзята скуб.
Чаго вам трэба, адкажыце,
Францішак, Янка і Якуб?

Я ж прамаўляў на кожным сходзе,
Пісаў начамі свой раман.
Як Танк, ніколі пры народзе
Ў прэзідыуме не драмаў.

Маскву, Сафію, Улан-Батар
Вітаў я поціскам рукі.
О так, з гасцей і я аматар
Прывозіць лірыкі пукі!

Я на Парнас сілком выводзіў
Палякаў, сербаў за руку.
Далі „Кірылу і Мяфодзія" —
Ці ж іх насіць на пінжаку?

Маё „я лягу... я прылягу"
На памяць ведаў кожны клуб...
Чаго ж здымаеце вы дзягі,
Францішак, Янка і Якуб?

**МІХАСЬ СКОБЛА**
**(„Розгі ў розніцу")**

## ПРОСТА АНЕКДОТ

Таксі сутыкнулася з грузавіком. Абодва шафёры ўпікаюць адзін аднаго. Урэшце таксіст гаворыць:

— Сляпы ты, ці што?

— Чаму? Дык я ж не прамахнуўся!..

* * *

— Ад чаго ў цябе, Пятрук, такі сіняк пад левым вокам?

— Ад думкі!

— Ды не хлусі ты!

— Дальбог! Думаў, што жонка вернецца ад маці ў суботу, як абяцала, а яна прыехала ў чацвер.

* * *

Суддзя пытае ў жанчыны:

— Няўжо не было ў вашага мужа якіх-небудзь станоўчых рысаў, калі вы выходзілі за яго замуж?

— Так, былі. Але за тры гады сумеснага жыцця ён усё станоўчае растраціў да апошняй капейкі.

**Падборку зрабіў**
**ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**

## МАЛАДЫ САЛДАТ




*Музыка Зміттрака Яўтуховіча*
*Словы Віктара Шніпа*

Я ў беларускім войску першы год служу.
На свае пагоны весела гляджу.
І хаця я сёння толькі радавы,
Буду я сяржантам, — мне паверце вы.

*Прыпеў:*
Малады, малады, малады салдат хоча
да дзяўчат.
Адпусціце вы яго на дзянёчак усяго
Да тае дзяўчыны, што назваў адзінай,
Што пісьмо прыслала, вернасць абяцала.
*(2 разы)*

Наш камандзір учора зноў мяне хваліў.
І на сёмым небе я ад шчасця быў.
І не спаў я ночай, мроіў медалі.
Ды значка мне сёння нават не далі.

*Прыпеў.*

Нас у кіно вадзілі, павядуць ізноў.
Лепш бы адпусцілі на дзянёк дамоў.
Я б прыйшоў дахаты — кожны мне там рад,
Любяць жа дзяўчаты маладых салдат.

*Прыпеў.*

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

## ВЯДЗЬМАРКІ

Гэтыя істоты з'уляюцца найбольш цяжкімі для распазнання недасведчанымі аматарамі. Для спецыяліста ж выявіць вядзьмарку — не ёсць вялікая праблема.

Па-першае, сапраўдныя вядзьмаркі ніколі не кідаюць цені; па-другое — не адбіваюцца ў люстэрку.

Цяжкасці распазнання палягаюць на тым, што вядзьмаркі хітрэйшыя за звычайных людзей; не кожная кабета можа стаць вядзьмаркаю, для гэтага неабходная адпаведная адукацыя і натуральныя схільнасці.

Наконт узнікнення гэтых звышнатуральных істотаў існуе некалькі версіяў. Паводле адной, пераход у вядзьмарскі стан адбываецца паступова, і крэўныя разам з сяброўкамі не заўсёды звыкаюцца з новай якасцю, спісваючы яе наконт пагаршэння характару. Паводле другой — змена адбываецца раптоўна, калі кабета ўступае ў сціслы кантакт з д'яблам. Некаторыя навукоўцы сцвярджаюць, што вядзьмарства перадаецца ў спадчыну.

Не бярэмся пацвердзіць ці абвергнуць гэтыя меркаванні: працэсператварэння нармальнае жанчыны ў вядзьмарку забірае досыць вялікі кавалак часу, а таму паставіць вопыты ў лабараторных умовах, каб заняцца вядзьмараселекцыяй, немагчыма.

Але адзінае, што можна сказаць дакладна — вядзьмаркі ёсць напаўжанчынамі, напаўзданямі. А каб пераканаць вас, шаноўныя аматары неверагодных ліхтугаў і жахлівых здарэнняў, падаем некалькі праўдзівых гісторыяў з іх удзелам...

### Вядзьмарка-даярка

З даўніх часоў пад Туравым, у вёсцы Яблонаўшчына жыла сям'я з дубальтовым шляхецкім прозвішчам Хер-Галава. Пра жанчын гэтага роду здаўна казалі, што яны схільныя да вядзьмарства. Зазвычай дзеўкі гэтае сям'і, беручыся шлюбам, аддавалі перавагу блізкім сваякам — ці Херам, ці Галовам, бо іншых вартых увагі ў ваколіцы не было.

Але аднойчы ў Тураў прыехаў малады журналіст Вітаўт М. з мэтаю збору матэрыялаў пра замовы і праклёны нашага краю. У сельсавеце яму параілі звярнуцца да Хер-Галоў, што ён і зрабіў. Але, ледзь убачыўшы адзіную дачку гаспадара, Ядавігу, малады шрайбікус забыўся пра мэту свайго візіту, а праз месяц ажаніўся з ёю.

Перад вяселлем старшыня калгаса шчыра папярэджваў нетутэйшага хлопца, што маці ягонае будучае нявесты — страшная вядзьмарка, але Вітаўт толькі паблажліва ўсміхнуўся.

Непрыемнасці пачаліся ў першую ж ноч; малады журналіст, маючы някепскую рэдакцыйную практыку, ніколі не скардзіўся на слабую патэнцыю, але, адасобіўшыся з нявестаю, ён адчуў дзіўную рэч — нібыта нейкая нябачная рука сціснула ягоны чэляс; маладзён нічога не змог зрабіць, бо аргазм настаў раней, чым ён паспеў скінуць майткі. Такога з ім не было ніколі: Вітаўт атрымаў звышнатуральны аргазм, але ж не знайшоў мужчынскага насення ані на майтках, ані на нагавіцах.

Калі на першы раз маладая, якая вырасла ў глыбінях цнатлівага Палесся, даравала яму, то потым яе справядлівая незадаволенасць выяўлялася штодня...

Маладыя хоць і з'ехалі ў Менск, але мужчынскія непрыемнасці маладога журналіста паўтараліся і там.

Дактары толькі разводзілі рукамі, спермавыя залозы працавалі на поўную шпулю, а мужчынскае насенне знікала бясследна.

Аднойчы збянтэжаны журналіст вырашыў паставіць праўдзівы эксперымент: завітаўшы да сваёй састарэлай, а таму выйшаўшай з ужытку каханкі, якая ў каляліратурных колах здаўна мела трывалую рэпутацыю вядзьмаркі, Вольгі Ебатавай, ён паскардзіўся ёй на сваю бяду. Дасведчаная ў падобных справах кабета адразу ж здагадалася ў чым справа, бо і сама здаўна практыкавала падобныя хітрыкі, ужываючы замест амаладжальных крэмаў сперму сваіх сяброў.

Вітаўт знянацку наведаўся ў Тураў і пад пагрозай прымусіў цешчу прызнацца...

Аказваецца старая вядзьмарка зляпіла з воску мадэль ягонага чэляса ў натуральную велічыню і, з дапамогаю чараў, перапампоўвала з маладзёна, абкрадваючы сваю дачку, такі неабходны прадукт.

Такім чынам, маладыя жонкі, калі ў вашага мужа ці каханка не стае сілаў, каб задаволіць вашыя натуральныя патрэбы, не спяшайцеся падазраваць яго ў нявернасці; калі ваш муж непрызна ставіцца да вашае маці і вінаваціць яе ва ўсіх грахах, то магчыма, мае на гэта падставы...

*(працяг будзе)*

**ФРАНЦІШАК ХЛУС**
**І МАРЦІН ЮР**